Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 51 (4902) 23 снежня 2016 г.



# Пад вокладкамі кніжных лотаў

**У сталіцы адбыліся Калядны дабрачынны баль і аўкцыён. Удзельнікаў аўкцыёну, якія таргуюцца, каб набыць жаданы прадмет, фатаграфаваць зазвычай нельга. Таксама як і публіка не мае права ўстанаўліваць свой стартавы кошт лотаў, а аўкцыяніст — павышаць цэны, кіруючыся адно сваім жаданнем. Але ж мы ведаем: каб цуды здзяйсняліся, часам можна адысці ад стандартаў і... даць волю ўласным правілам, паводле якіх усё магчыма.**


*Кніга «Беларусь алімпійская» — самы дарагі лот.*

Гэта чарговы раз даказалі Калядны дабрачынны баль кнігі і святочны аўкцыён, якія ўжо пяты раз прайшлі ў сталіцы і былі арганізаваныя Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Свята стала яркай зоркай, далучанай да Рэспубліканскай акцыі «Нашы дзеці», што праходзіць пад патранатам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Месцам сустрэчы аматараў кнігі, выдаўцоў, кнігагандляроў, дзяржаўных дзеячоў, спартсменаў і музыкантаў па добрай традыцыі быў абраны Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Тут гучала музыка, а ў залах і калідорах можна было сустрэць элегантных дам і галантных кавалераў, паназіраць за сцэнкамі з жыцця пачатку XX стагоддзя і нават атрымаць у падарунак тэкст рамanса «Зорка Венера» ад самога Максіма Багдановіча, дакладней, яго «двайніка»-акцёра.

Ды і дабрачынны аўкцыён таксама працаваў па святочных правілах. Як падкрэсліў яго вядучы, вядомы шоумен Аляксандр Бугаеў, тут можна было (і нават варта) здымаць удзельнікаў з таблічкамі ў момант павышэння стаўкі. Цэны «ўзляталі» ледзь не ў паўсотню разоў, і бескаштоўныя падарункі партнёраў па жаданні публікі станавіліся вельмі дарагімі. Пагадзіцеся, гэтыя невялікія хітрыкі пайшлі добрай справе толькі на карысць, бо сабраныя падчас аўкцыёну грошы сёлета будуць скіраваныя ў Шклоўскую школу-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі зроку.

— Кніга суправаджае чалавека па жыцці. Разам з кнігамі мы сталеем, расцём, — падкрэсліла ў сваім выступленні міністр інфармацыі Лілія Ананіч. — Вельмі знакава, што сёлета на аўкцыёне прадстаўленыя сапраўды важныя для Беларусі кнігі. Яны распавядаюць пра нашы алімпійскія дасягненні, культуру, выдатных пісьменнікаў. Упэўненая, наш баль прынясе многа радасці выхаванцам Шклоўскай школы-інтэрната. Але для нас свята — гэта яшчэ і калядная справаздача перад чытачом, і масток у будучыню. Хочам паказаць сапраўды знакавыя кніжныя праекты, рэалізаваныя сёлета, у Год культуры. Варта ведаць, што мы застаёмся нацыяй, якая чытае. Дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы рэалізуем многа сацыяльна значных праектаў. Мы не страцілі кнігу, і сёння рыхтуемся да знакавых дат наступнага года — 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, юбілеяў нашых пісьменнікаў-класікаў. Але вельмі хацелася б, каб кніга была частым госцем эфіраў на радыё і тэлебачанні.

Адметна, што сёлета да свята дабрачыннасці і кнігі далучыліся прадстаўнікі розных структур і сфер дзейнасці. Так, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч прадставіў лот — выданне «Спірыдон Собаль і вытокі магілёўскага кнігадруку», дырэктар «Віцебскаблсаюздрука» Людміла Гайдук прачытала ўрывак з рамана Івана Шамякіна «Вазьму твой боль», саветнік Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі Анастасія Марыніна і Алімпійскі чэмпіён Аляксандр Багдановіч распавялі пра ўнікальны праект «Беларусь алімпійская», а дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура», паэт Алесь Бадак звярнуўся да памяці пра сёлетняга юбіляра Уладзіміра Мулявіна.

Працяг на 2-й стар.

## Пункціpам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне «Аб назначэнні стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь таленавітым маладым вучоным на 2017 год». Стыпендыі назначаны 94 маладым вучоным, у тым ліку 5 дактарам навук ва ўзросце да 45 гадоў, 49 кандыдатам навук — да 35 гадоў і 40 маладым вучоным без ступені — да 30 гадоў. Сярод іх і прадстаўнікі гуманітарных навук. Прыняцце распараджэння прэзідэнта — сведчанне падтрымкі дзяржавай таленавітых маладых вучоных і развіцця навуковага патэнцыялу краіны.

✔ Творчы вечар стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, прысвечаны 20-годдзю яго стварэння, адбыўся 20 снежня ў Маскве, у Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Як падкрэсліў падчас адкрыцця Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка, у нашай краіне распрацавана сістэмная падтрымка адораных і таленавітай моладзі. За час існавання фонду яго стыпендыятамі сталі больш як 2,5 тысячы маладых людзей, творчых калектываў і педагогаў. У выкананні юных беларускіх талентаў прагучалі шэдэўры сусветнай класічнай музыкі. А ў Мармуровай зале комплексу працавала выстаўка карцін і скульптурных кампазіцый лаўрэатаў фонду.

✔ Работа беларускіх рэстаўратараў па абнаўленні скульптуры «Працаўнікі Беларусі» ў Маскве адзначана ўзнагародай конкурсу «Маскоўская рэстаўрацыя-2016». Урад горада Масквы высока ацаніў работу беларускіх спецыялістаў. Рэстаўрацыя скульптурнай кампазіцыі айчыннага павільёна на тэрыторыі Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі праводзілася скульптарамі ААТ «Белрэстаўрацыя». Урад Беларусі ўганараваны дыпломам за лепшую арганізацыю рамонтна-рэстаўрацыйных работ на аб'екце культурнай спадчыны «Павільён Рэспублікі Беларусь». Рашэнне аб рэстаўрацыі было замацавана пастановай Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы. Абнаўленне праводзілася за кошт сродкаў саюзнага бюджэту. Міністэрства культуры Беларусі выступала ў ролі дзяржаўнага заказчыка — каардынатара работ.

✔ Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч 19 снежня ў Маскве, у рэдакцыі «Российской газеты», уручыла ганаровую грамату Савета Міністраў Беларусі газеце «Союз. Беларусь — Россия». Гэтай узнагародай выданне адзначана за вялікі ўклад у развіццё і пашырэнне беларуска-расійскай інфармацыйнай прасторы. Міністр адзначыла, што ў цэнтры ўвагі газеты — пытанні інтэграцыі дзвюх краін, а развіццё Саюзнай дзяржавы немагчыма без інфармацыйнага суправаджэння.

✔ Гэтымі днямі ў Мінску адкрываецца Музей архітэктурных мініяцюр беларускіх славутасцей «Краіна міні». Экспазіцыя музея ўключае 15 макетаў, яшчэ тры з'явяцца да канца студзеня будучага года, а ў далейшым плануецца пашырыць калекцыю да 70 экспанатаў. У музеі можна ўбачыць макеты вядомых замкаў — Нясвіжскага, Лідскага і Косаўскага, а таксама Жыровіцкага манастыра, Троіцкага прадмесця, палаца Румянцавых-Паскевічаў, ландшафтаў Белавежскай пушчы, дыярамы Брэсцкай крэпасці ды інш. Тут плануюць праводзіць тэматычныя семінары, канферэнцыі і майстар-класы. Музей размясціўся ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў.

**Пастырскае пасланне арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Божае Нараджэнне 2016**

# Дазвольце яму прыйсці

## «Хрыстус нарадзіўся, Бог аб'явіўся!»

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры, людзі добрай волі!

Сардэчна вітаю вас усіх гэтым святочным воклічам і вiншую з радасным і поўным духоўнага зместу святам Божага Нараджэння, калі мы адзначаем таямніцу Уцелаўлення Сына Божага.

Сёлетнія разважанні пра цуд Бэтлеемскай ночы, які меў месца больш як 2000 гадоў таму, дазвольце распачаць наступным аповедам. Падчас калядных адведзінаў святар пастукаў у дзверы аднаго дома. Ніхто не адказаў, хаця было чутна, як працуе радыё. Ён пастукаў мацней. Тое самае. Трэці раз. Нічога. Тады ён узяў сваю візітоўку і напісаў на ёй словы са Святога Пісання: «Вось, стаю каля дзвярэй і стукаюся; калі хто пачуе голас Мой і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, і ён са Мною».

У наступную нядзелю святар убачыў сваю візітоўку ў кошыку з ахвярамі, якія збіраюцца падчас набажэнства. Там было напісана: «Я бачыў цябе праз акно, але пабаяўся адчыніць дзверы».

Гэты аповед мае цесную сувязь з таямніцай Уцелаўлення і прыняцця яе людзьмі. Марыя з Юзафам шукаюць месца, дзе мог бы нарадзіцца Збаўца свету. Яны стукаюць у дзверы розных дамоў і гатэляў, але нідзе няма месца для іх. Езус прыйшоў да сваіх, але яны Яго не прынялі.

Гісторыя Бэтлеемскай начы не завяршылася. Яна паўтараецца. Езус і сёння стукае ў дзверы нашых сэрцаў і хоча нас адведаць, хоча знайсці ў іх месца, хоча быць з намі, хоча адарыць нас сваім словам і збаўчай ласкай.

Ці адчыненыя дзверы нашых сэрцаў? Ці чакаем мы Езуса? Ці ахвотна мы Яго прымаем? Гэтае пытанне сёння з'яўляецца як ніколі актуальным. Бог мае свой план адносна кожнага з нас. Ён стукае ў дзверы нашых сэрцаў. Ці гатовыя мы іх адчыніць?

У нашым жыцці мы заўсёды чагосьці жадаем і да чагосьці імкнёмся. Аднак мы добра ведаем, што спаўненне ўсіх жаданняў не можа нас задаволіць да канца, пра што сведчыць штодзённае жыццё. Таму самым запаветным жаданнем павінна быць імкненне дасягнуць таго, што будзе працягвацца вечна. У гэтым мы адрозніваемся ад іншых стварэнняў. Маладыя закаханы чалавек хоча, каб любоў ніколі не завяршылася і не задавальняецца толькі часовымі пачуццямі. Таму, каб быць сапраўды шчаслівым, чалавек павінен жадаць вечнага Бога. Не супакоіцца маё сэрца, пакуль не спачне ў табе, Божа, кажа св. Аўгустын.

Нараджэнне Хрыста — гэта ўваход бязмежнага Бога ў вобразе малога бездапаможнага дзіцяці ў гісторыю чалавецтва, каб яно спачыла ў ім. Дзякуючы таямніцы Уцелаўлення Бог стаў чаканым Эммануэлем — Богам з намі. Ён увайшоў у нашае жыццё, каб дзеля нас перажыць узніклую з-за граху драму адносін чалавека з Богам з мэтай усталявання новых адносін паміж імі.

Гэта мог учыніць толькі ўцелаўлёны Сын Божы і ніхто іншы. Ніхто, акрамя Яго, так не перажыў драму адыходу чалавека ад Бога, як гэта перажыў Хрыстус. Ніхто таксама не мог паўней перажыць драмы вяртання чалавека да Бога, як Ён, які дзеля гэтага ахвяраваў сваё жыццё на дрэве крыжа.

Прыйсце Сына Божага ў свет звязана з аб'яўленым адразу пасля грэхападзення Адама і Евы Божым планам збаўлення чалавека. Таму Уцелаўленне — гэта таксама ўваход бязгрэшнага Бога ў сферу чалавечай грэшнасці з мэтай прыняць на сябе грахі чалавецтва і ў чалавечым целе перажыць драму аддалення і адначасова драму вяртання чалавека да Бога.

Божае Нараджэнне — гэта магчымасць паглыбіць прысутнасць Бога сярод нас і нашу еднасць з Ім. Гэтае свята нагадвае пра тое, што нашае жыццё не можа ў поўні існаваць без пастаянных адносін з Богам. Таму галоўным пасланнем Божага Нараджэння з'яўляецца запрашэнне да новага і настойлівага намагання заўсёды заставацца перад абліччам Бога, каб пазнаваць Яго волю і жыць згодна з ёй. Гэтым пасланнем таксама з'яўляецца аднаўленне нашага рэлігійнага і духоўнага жыцця ў адпаведнасці з духам Евангелля і вучэння Касцёла.

Сучасны свет усё больш і больш акунаецца ў розныя крызісы, ліхаманкава шукае выйсця з іх і, абапіраючыся толькі на свае чалавечыя сілы і магчымасці, не можа знайсці. Прычыну найперш неабходна шукаць у маральным крызісе, які завалодаў чалавецтвам, а выйсце — у Божай дапамозе. Не без прычыны Езус сказаў, што без Яго нічога не зможам зрабіць. А быць з Ім азначае жыць паводле Божага закону. Нярэдка можна пачуць, што Божы закон абмяжоўвае свабоду чалавека. Аднак ніхто не кажа, што дарожныя знакі абмяжоўваюць свабоду вадзіцеля. Яны патрэбныя для таго, каб бяспечна кіраваць аўтамабілем і даехаць да мэты нашага падарожжа.

Нагадваючы пра сучасныя праблемы, асаблівую ўвагу звяртаю на масмедыя, роля якіх з кожным днём расце. На жаль, вельмі часта замест таго, каб несці агульначалавечыя і маральныя каштоўнасці, СМІ нясуць антыкаштоўнасці.

Браты і сёстры!

У гэтае радаснае і збаўчае свята Божага Нараджэння сардэчна віншую ўсіх вас і жадаю, каб Езус сваёю ласкай нарадзіўся ў вашых душах і быў прысутны на вашых жыццёвых шляхах.

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

# Пад вокладкамі кніжных лотаў

Але вернемся да аўкцыёну і яго лотаў. На гэты раз тут было прадстаўлена 17 кніжных праектаў, аб'яднаных значнымі тэмамі Года культуры. Безумоўна, не засталіся без увагі і 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, і юбілеі нашых класікаў Максіма Багдановіча, Івана Шамякіна, памятныя даты прыгожых музаў і знакавых асоб нашай культуры — Уладзіславы Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы і стваральніцы музея паэта, а таксама вядомай актрысы, народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Пад вокладкамі кніжных лотаў змясціліся таксама расповеды пра краіну, знакавыя творы для дзяцей. Значнымі сталі выданні краін Садружнасці, прапанаваныя партнёрамі і даўнімі сябрамі Беларусі. Дарэчы, у гэтай тэматычнай катэгорыі прадставілі сапраўды ўнікальныя выданні: раман-трылогію Ільяса Ясенберліна «Качэўнікі» выставіла на аўкцыён Асацыяцыя выдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Казахстана, а шыкоўна аздобленае «Падарожжа Нашчадка Цэсарэвіча» прапанавала Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі.

Тэма кніжнасці і літаратуры чырвонай ніткай праходзіла праз усё святкаванне балю. Так, гэта і традыцыйны імправізаваны кніжны магазін, зладжаны Цэнтральнай кнігарняй, дзе можна было набыць самыя актуальныя выданні бягучага года, і чытанне вершаў, і цытаванне класікаў. А яшчэ вельмі важна, што для выступлення на балі артысты Вялікага тэатра падрыхтавалі адмысловыя нумары: гучаў «Рамакс» Максіма Багдановіча, а таксама арыі з опер «Сівая легенда», «Дзікае паляванне караля Стаха».

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас Каляднага дабрачыннага балю.*

**Гэта цікава:**

Самым дарагім лотам, які пайшоў з малатка за 1500 рублёў, стала ўнікальная кніга «Беларусь алімпійская», што пабачыла свет у выдавецтве «БелЭн імя П. Броўкі» да 25-годдзя Алімпійскага руху ў Беларусі. Яе адметнасць — у арыгінальных фотаздымках, зробленых беларускімі фотакарэспандэнтамі падчас Алімпійскіх гульняў, у аўтографах нашых Алімпійскіх чэмпіёнаў.

Самым выгадным можна назваць набыццё лоту «Нарысы гісторыі культуры Беларусі» (Выдавецкі дом «Беларуская навука»). Усяго за 500 рублёў яго ўладальнік атрымаў не толькі тамы, што ўжо пабачылі свет у межах праекта, але і стаў гарантаваным уладальнікам наступных частак праекта.

Самым універсальным кніжным праектам, прадстаўленым на аўкцыёне, можна назваць томік «Францыск Скарына на мовах народаў свету» Выдавецкага дома «Звязда». За 300 рублёў яго пакупнік атрымаў магчымасць чытаць мудрыя словы нашага першадрукара, перакладзеныя на многія мовы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



## Акцыя!

*Кніга з аўтографам у падарунак ад «ЛіМа»*

Рэдакцыя газеты «ЛіМ» і Выдавецкі дом «Звязда» разыгрываюць сярод бібліятэк-падпісчыц 100 асобнікаў кніг беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з аўтографамі аўтараў. Узяць удзел у акцыі вельмі проста: як мага хутчэй падпісацца на газету, даслаць копію пасведчання пра падпіску нам на пошту (электронную скрыню) і папоўніць сваё палічкі новымі беларускімі кнігамі з дарчымі надпісамі!

*Прэзентацыя*

# І сэрцам, і думамі…

**Музей Уладзіміра Мулявіна ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі папоўніцца яшчэ адным экспанатам — кнігай «Уладзімір Мулявін і Лідзія Кармальская. Недасказанае...» Марыны Мулявінай і Вольгі Брылон.**

Выданне стане выдатным завяршэннем года Мулявіна. Кніга складаецца з 7 глаў, але ўмоўна аўтары падзяляюць яе на 3 часткі — біяграфію артыста, успаміны яго сяброў і блізкіх і лісты. Дарэчы, перапіска Мулявіна і Кармальскай наўмысна надрукаваная ў апошняй частцы — каб чытач ведаў перадгісторыю і разумеў, пра што гавораць у перапісцы Уладзімір Георгіевіч і яго жонка. Адна з аўтараў кнігі, музыказнаўца Вольга Брылон, адзначыла, што «лісты — гэта эпілог, канец гісторыі».

Успамінамі для выдання падзяліліся вядомыя дзеячы культуры Беларусі і Расіі. Сярод іх — Нэлі Багуслаўская, Мікалай Маісеенка, Міхаіл Зданевіч, Юрый Ведзянееў і Уладзіслаў Місевіч. Для апошняга кніга стала і нагодай выказацца:

— Біяграфія такіх грандыёзных асоб, як Мулявін, не можа быць звычайнай: тут і іншыя адносіны да сям'і, да сяброў, да навакольля…Пры глыбінным стаўленні Мулявіна да ўсяго, «простай» біяграфіі быць і не магло.

У кнізе захоўваецца багаты фота- і пісьмовы архіў: і невядомыя фотаздымкі артыста, і копіі працоўных кніжак, і заявы. Дачка музыканта адзначае, што ў кнізе Мулявін паўстае адразу ў некалькіх іпастасях: як аранжыроўшчык, музыкант, кіраўнік, зразумела ж, як чалавек, бацька і муж.

Асаблівым падарункам для чытачоў стане апошняя частка кнігі — лісты. Марына Мулявіна вырашыла падзяліцца з аматарамі бацькавай творчасці самым інтымным — яго перапіскай з першай жонкай:

— Мне было вельмі цяжка рашыцца на гэты крок, але я чытала лісты і разумела, што гісторыю вялікага чалавека і яго кахання (бо ў гэтым шлюбе нарадзіліся песні «Александрына», «Завушніцы», «Авэ Марыя» і інш.) трэба распавесці. Рэдка хто захоўвае лісты — жанчыны больш далікатна да гэтага адносяцца, і для мяне было дзіўна, што іх захаваў бацька. Таму я вырашыла адарваць гэтыя патаемныя рэчы ад сэрца.

Аўтары працавалі над кнігай год: шукалі інфармацыю, звярталіся ў архівы, пісалі лісты туды, дзе жылі Мулявін і Кармальская. Амаль усе ішлі насустрач і дапамагалі ў стварэнні кнігі пра творцу. У выніку выданне атрымалася не толькі багатым знешне (што адбылося дзякуючы спонсарству БПС-Сбербанка, будынак якога, дарэчы, знаходзіцца на бульвары Мулявіна), але і насычаным па сваёй сутнасці.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# Давярай — і адкрывай

## Кітайскі культурны цэнтр з'явіўся ў Мінску

У маі 2015 года паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Кітайскай Народнай Рэспублікі было падпісана пагадненне аб узаемным заснаванні культурных цэнтраў. Наша краіна выканала ўсе абяцанні, і дваццаць першага снежня быў адкрыты Кітайскі культурны цэнтр у Мінску (па вул. Клары Цэткін).

— Кітайска-беларускія культурныя сувязі і супрацоўніцтва адыгрываюць усё больш значную і незаменную ролю ва ўсіх кірунках супрацоўніцтва, — адзначыў на адкрыцці Кітайскага культурнага цэнтра Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь Цуй Цымін. — Арганізаваныя на годным узроўні сумесна кітайска-беларускія мерапрыемствы — гэта каштоўны досвед для абедзвюх рэспублік. Наша ўзаемаразуменне спрые сяброўству беларускага і кітайскага народаў. Усё часцей беларусы, асабліва моладзь, зацікаўліваюцца кітайскай культурай, а мы імкнёмся дапамагчы ім даведацца самае цікавае пра нас. Кітай таксама захапляецца беларускай культурай. Тое, што мы разам адкрываем Цэнтр кітайскай культуры ў Мінску, — вялікае дасягненне нашых стасункаў.

Цяпер беларуска-кітайскае супрацоўніцтва будзе накіравана на актыўную падрыхтоўку Цэнтра беларускай культуры ў Пекіне, які павінен стаць вялікай дыялагічнай пляцоўкай, дзе будуць прадстаўляцца культура і традыцыі беларускага народа.

Як адзначыў на адкрыцці Кітайскага культурнага цэнтра міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, супрацоўніцтва з Кітайскай Народнай Рэспублікай — прыярытэтны напрамак знешняй палітыкі Беларусі, які абумоўлены даверлівымі адносінамі паміж нашымі дзяржавамі.

Вікторыя АСКЕРА

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**27 снежня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 14.30.*

**28 снежня** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «Зімовыя фантазіі» пісьменніцкага клуба «Творчая сябрына» (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**29 снежня** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам празаіка Алены Шчарбаковай у публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**29 снежня** — *на свята дзіцячай кнігі «Станем дружна ў карагод» з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**27 снежня** — *на навагоднюю творчую сустрэчу Тамары Красновай-Гусачэнка са школьнікамі Дзіцячага экалагічнага цэнтра ў Аршанскім музеі імя У. С. Караткевіча (г. Орша, вул. Леніна, 26а). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**27 снежня** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром» у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага: г. Гродна, вул. Замкавая, 20 (Новы замак). Тэма дыскусіі: «Спаборніцтва ў мастацтве». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**28 снежня** — *на вечарыну «Каляды ў Новым замку» з удзелам беларускіх, рускіх, украінскіх, польскіх, літоўскіх, яўрэйскіх паэтаў у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага. Пачатак а 17-й гадзіне.*

*Водгалас*

# Маналогі і дыялогі

## ў канцэрце камернай музыкі беларускіх кампазітараў «Трамантана-ІІ»

Праект, народжаны Галінай Гарэлавай і Міхаілам Канстанцінавым, рэалізаваны пры дапамозе Вячаслава Пяцько. Як і летась, кампазітары вынеслі на суд публікі ў малой зале Белдзяржфілармоніі самыя яркія сачыненні і крэатыўныя задумы.

Так, у праграме былі прадстаўлены п'есы для незвычайных саставаў ці тыя, што раскрываюць звыклыя інструменты з новага боку. У выкананні Міхаіла Канстанцінава прагучала «*Gigantomania*» Валерыя Воранава для там-тама сола. Па словах аўтара, твор стаў спробай «гукавога стварэння свету». У акадэмічнай музыцы там-там нячаста ўжываецца як сольны інструмент. Кампазітару ж удалося выбудаваць працяглую драматургію, выкарыстоўваючы шырокую палітру выразных сродкаў, а таксама незвычайныя прыёмы гуказдабыцця.

З незвычайнага боку былі паказаны такі інструмент, як кантрабас. Кампазітар Уладзімір Кур'ян — вядомы вынаходнік. У п'есе «Трыумфальнае *arco* і нетрыумфальнае *pizzicato*» для басэтлі сола аўтар звярнуўся да частак інструмента, якія звычайна не задзейнічаныя пры ігры. У выніку выкананне было цікава не толькі слухаць, але і глядзець.

Ціхай кульмінацыяй канцэрта стала сачыненне Галіны Гарэлавай з паэтычнай назвай «Дыялог з заходам. Музыка для кельцкай арфы і 22 куфляў, напоўненых дажджавой вадой». Як і ўсе творы аўтара, п'есу адрознівала філасофская напоўненасць і тонкае спалучэнне лірызму з інтэлектуальным пачаткам. Немалую ролю ў гэтым адыгралі выканаўцы: Кацярына Жураўлёва, уладальніца адзінай кельцкай арфы ў Беларусі, Міхаіл Канстанцінаў, які асвоіў гульню на куфлях спецыяльна да канцэрта. Адметнай асабліваслю «Трамантаны» з'яўляецца тое, што разам з творамі масціт ых аўтараў — Уладзіміра Кур'яна, Уладзіміра Каральчука, Віктара Войціка, Ларысы Сімаковіч, Аліны Безенсон, Віктара Капыцько, Валерыя Воранава, Галіны Гарэлавай — гучаць работы маладых кампазітараў, сёлетніх «навабранцаў» Саюза кампазітараў Сяргея Бадалава, Вячаслава Пяцько і Кацярыны Шымановіч. П'еса Сяргея Бадалава «*Martyrs*» была напісана ў 2011 годзе пад уражаннем аднайменнага фільма. Пранікнёны напружаны маналог кларнета, пабудаваны на інтанацыях пытання, змяняўся рэзкімі ўскрыкамі-адказамі. Вяртанне ж у канцы першапачатковага пытання стала філасофскай высновай-рэзюмэ. Казачным гучаннем зачаравала слухачоў Багатэль для арфы Віктара Войціка. Эпічнасць і тонкі гумар спалучаліся ў творы Уладзіміра Каральчука «Пейзаж» для саксафона і фартэпіяна.

Запоўненая зала, уважлівая цішыня падчас канцэрта сведчылі, што беларуская музыка цікавая слухачам і знаходзіць водгук у людзей розных пакаленняў. Быць можа, Трамантана, паўночны вецер, прынясе перамены ў клімат нашага акадэмічнага мастацтва?

Любоў СЫЦЬКО

# Развітальнае слова

***17 снежня спынілася сэрца Леаніда Маракова — гісторыка, журналіста, энцыклапедыста, пісьменніка, вядомага найперш грунтоўнымі даследаваннямі рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі.***

Інжынер-радыёэлектронік па адукацыі, Леанід Маракоў, ахвярна ўшы асабістымі інтарэсамі, актыўна займаўся асвятленнем адной з самых трагічных старонак у нашай гісторыі. Аднак для яго гэта было і сямейным абавязкам: пляменнік расстралянага 29 кастрычніка 1937 года паэта Валерыя Маракова прысвяціў жыццё вяртанню страчаных, забытых, забароненых імёнаў і аднаўленню справядлівасці. Плёнам яго нястомнай працы сталі манаграфія «Валеры Маракоў. Лёс. Хроніка. Кантэкст» (1999 г.), энцыклапедычныя даведнікі «Вынішчэнне: рэпрэсаваныя беларускія літаратары» (2000 г.), «Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794 — 1991» (2002 — 2003 г.), «Ахвяры і карнікі» (2007 г.), «Галоўная вуліца Мінска. 1880 — 1940» і многія іншыя. Вядомы Леанід Маракоў і сваімі мастацкімі творамі. Аднак многа кнігавыдавецкіх праектаў засталося ў планах. Ажыццяўляць давядзецца нашчадкам і паплечнікам.

Развітанне з Леанідам Мараковым адбылося 19 снежня ў мінскім праваслаўным Саборы святых апосталаў Пятра і Паўла. Пахаваны пісьменнік на Заходніх могілках.

Яўген ГЛЕЧЫК

# Гучалі вершы і песні

У Доме літаратара адбылася юбілейная імпрэза паэта Рыгора Сарокі, якому споўнілася днямі 80 гадоў. Вёў мерапрыемства старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт, празаік і перакладчык Міхась Пазнякоў, які сказаў нямала цёплых слоў пра юбіляра. Грамату СПБ Рыгору Сароку ўручыла першы намеснік старшыні творчага саюза, празаік і публіцыст Алена Стэльмах.

Павел КУЗЬМІЧ

## *ЛіМ-каляндар*

**21 снежня** — 220 гадоў з дня нараджэння Тамаша Зана (1796 — 1855), беларускага паэта-рамантыка.

**25 снежня** — 125 гадоў з дня нараджэння Уладзіславы Луцэвіч (1891 — 1960), беларускага літаратуразнаўца і культурнага дзеяча, заслужанага дзеяча культуры БССР, жонкі Янкі Купалы.

**25 снежня** — 110 гадоў з дня нараджэння Налі Маркавай (Анастасіі Паўлаўны, па мужу Хмары; 1906 — 1994), беларускай паэтэсы.

**25 снежня** — 90 гадоў з дня нараджэння Маргарыты Громавай (1926 — 2007), беларускай актрысы.

**25 снежня** 70 гадоў адзначае Аляксандра Станкевіч, беларускі мовазнавец.

# Лепш бачыць саміх сябе,

## альбо Літаратурныя сувязі як аснова сацыякультурнай інтэграцыі

Адзін з самых актуальных і прадуктыўных напрамкаў развіцця сучаснага літаратуразнаўства — вывучэнне літаратуры ў яе сувязях і ўзаемадзеянні з іншымі нацыянальнымі літаратурамі. Гэта дыктуецца комплексам як уласна гісторыка-культурных фактараў, так і сацыяльна-эканамічных, а таксама ідэйна-палітычных абставін і акалічнасцей. Падобнае даследаванне сёння цалкам паляга ў рэчышчы актыўных інтэграцыйных працэсаў у Еўропе і свеце.

Сёлета гуманітарыі Беларусі пачалі працу па выкананні Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў «Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства», разлічанай на пяць гадоў (2016 — 2020). У межах праграмы намаганнямі супрацоўнікаў аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выконваецца складаны праект «Беларуска-еўрапейскія літаратурныя ўзаемасувязі і імагалогія: міфы, стэрэатыпы, рэальнасць».



Навукоўцы-даследчыкі: сядзяць Алена Вальчук, Інга Бязлепкіна, Жанна Шаладонава, стаяць Мікола Мікуліч, Серж Мінскевіч, Таццяна Барысюк, Наталля Бахановіч.

**Імагалогія — гэта найноўшы напрамак у сучаснай гуманітарыстыцы і культуры,** які базуецца на даследаванні ўстойлівых стэрэатыпных вобразаў «іншых», «чужых» этнасаў, народаў, культур, краін, іншародных для суб'екта ўспрыняцця. Маючы міждысцыплінарны характар, імагалогія развіваецца на глебе сінтэзаванага выкарыстання багатага і шматстайнага матэрыялу этналогіі, гісторыі, культуралогіі, фальклору, мовы, літаратуры, мастацтва і іншых крыніц і звернута да выпрацоўкі агульнай стратэгіі рэцэпцыі этнастэрэатыпаў «іншых», «чужых» у прасторы пэўнай нацыянальнай свядомасці.

Літаратура як від мастацтва надзвычай глыбока і ўсебакова адлюстроўвае чалавечыя характары, асаблівасці мовы, паводзін і ўчынкаў герояў, стэрэатыпы будзённай свядомасці, якія сфарміраваліся ў пэўным нацыянальным ці сацыяльным асяроддзі, ярка і паўнакроўна выяўляе прыроду стасункаў і ўзаемадачыненняў і ў цэлым нацыянальны тып ментальнасці. Вобразы пэўных нацыянальных супольнасцей (імагатыпы) у творах мастацкай літаратуры выступаюць у асабліва ўстойлівай і характарыстычнай якасці.

У калектыўнай працы акадэмічных даследчыкаў упершыню ў літаратуразнаўстве вывучаецца спецыфіка фарміравання і **эвалюцыя вобразаў Іспаніі і іспанцаў, увасобленых у творчасці беларускіх пісьменнікаў.** Зыходзячы з таго, што беларуска-іспанскія культурна-літаратурныя ўзаемасувязі маюць даўнюю гісторыю, існуе неабходнасць раскрыць адметнасць уяленняў пра паўднёваеўрапейскую краіну і яе жыхароў на айчынных абшарах у розныя эпохі. Паколькі значную ролю ва ўспрыманні «чужога» адыгрывалі стэрэатыпныя ўяўленні, сфарміраваныя ў іншых нацыянальных асяроддзях, то варта вызначыць ступень іх уздзеяння на працэс крышталізацыі згаданага вобраза ў беларусаў.

Матэрыял такіх твораў, як «Хроніка Быхаўца», трактат «Аб грамадзянскай або палітычнай свабодзе» А. Волана, «Жыцці святых Старога і Новага Запаветаў» П. Скаргі, «Карціны еўрапейскіх двароў XVII ст.» С. Паца, дзённік Альбрэхта Станіслава Радзівіла і інш., дазволіць прасачыць спецыфіку аўтарскай перцэпцыі чужой краіны і яе этнасу на працягу XVI — XVII стст. Зварот да «Дыярыуша» Ю. Харкевіча, у якім прысутнічаюць апісанні прыродна-кліматычных умоў, флоры і фауны, непаўторнасці архітэктурнага стылю не толькі свецкіх, але і культавых збудаванняў, побыту, а таксама культурных традыцый іспанскіх рэгіёнаў, дасць магчымасць вызначыць ступень яго ўплыву на выпрацоўку этнастэрэатыпаў у свядомасці насельніцтва Рэчы Паспалітай XVIII ст. у дачыненні да краіны на Іберыйскай паўвыспе.

Прысутнасць у творчасці А. Міцкевіча матываў, канцэптаў, звязаных з Іспаніяй, дае падставы для асэнсавання адметнасці аўтарскай інтэрпрэтацыі іспанскай тэматыкі, раскрыцця яе ўплыву на станаўленне чытацкага погляду на паўднёваеўрапейскую дзяржаву. Аналіз успамінаў ураджэнцаў беларускіх абшараў, якім у XIX ст. удалося наведаць Іберыйскую паўвыспу (Ф. Булгарын, А. Галінскі і інш.), будзе садзейнічаць выяўленню прыкмет трансфармацыі падыходаў да «іншага» ў свядомасці прадстаўнікоў Новага часу.

Паколькі ў 30-я гады XX ст. уяўленні беларусаў пра краіну на поўдні Еўропы і яе народ фарміравалася праз прызму палітычных здарэнняў, а менавіта Грамадзянскай вайны 1936 — 1939 гг., падзеі якой былі адлюстраваны ў творчасці Я. Купалы, В. Таўлая і іншых пісьменнікаў, то варта асэнсаваць ролю гэтых аўтараў у эвалюцыі поглядаў беларусаў на іспанскі свет у адзначаны перыяд.

Вывучаючы **беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі** XIX ст. у імагалагічным аспекце, выканаўцы праекта ажыццяўляюць складаны працэс размежавання беларускага і польскага кампанентаў у мастацкіх творах гэтага перыяду з апорай на стэрэатыпы ўзаемаўспрымання прадстаўнікамі этнічных груп былой Рэчы Паспалітай. У працы абгрунтоўваецца наватарская гіпотэза аб тым, што ў XIX ст. беларускі дыскурс асвятляецца ў літаратуры суседзяў не ў якасці геаграфічнага прыдатку да іх тэрыторыі, а як спецыфічная духоўная прастора, дзе сканцэнтраваны станоўчыя традыцыі многіх пакаленняў. Таксама паказваецца, што падобная праблематыка носіць неадназначны характар: у беларускай нацыянальнай літаратуры прысутнічаюць творы, у якіх прадстаўлены польскі дыскурс. Паколькі заяўленае праблемна-тэматычнае поле ўключае вялікі спектр пытанняў творчых узаемадзеянняў і ўзаемаўплываў, непасрэдных і апасродкаваных кантактаў, феномен літаратуры памежжа, узаемную рэцэпцыю і ўзаемны пераклад, то даследаванне вядзецца з улікам ролі беларускага комплексу ўплываў на польскае мастацтва слова (у прыватнасці, у эстэтычных кірунках пазітывізму і рамантызму), а таксама польскага — на беларускае (увасабленне беларускай ментальнасці моўнымі сродкамі іншага народа і г. д.).

Выяўленне спецыфікі нацыянальнага бачання «саміх сябе» як прадстаўнікоў асобнага этнасу падчас зменаў на працягу XIX ст. — гэта значыць у сітуацыі адсутнасці дзяржаўнасці — паглыбіць бачанне сучаснымі беларусамі гісторыі свайго народа. Гэта дазволіць ім атрымаць больш поўнае ўяўленне пра месца сваёй краіны ў еўрапейскай гісторыі і будзе стымуляваць грамадскую супольнасць шукаць шляхі ўмацавання сваёй ролі ў навуковай, культурнай і эканамічнай прасторы Еўропы і свету.

У межах даследавання ў святле найноўшых навуковых канцэпцый упершыню ў літаратуразнаўстве аналізуецца эвалюцыя перакладу класічнай і сучаснай польскай паэзіі на беларускую мову, выяўляюцца этапы развіцця версіфікацыйных прэферэнцый перакладчыкаў у польскіх паэтычных творах, якія маюць беларускамоўныя пераклады, г.зв. факты «іншасці» (інаковости — *рус.*; otherness — *англ.*) — супрацьлеглых, супрацьпастаўленых элементаў: *сваё — чужое, гэтае — тое, я — іншае, заходняе — усходняе,* у дадзеным выпадку польскае — беларускае — і прааналізаваць перакладчыцкія стратэгіі іх асваення.

У калектыўным даследаванні акадэмічных кампаратывістаў вывучаецца прысутнасць у беларускай літаратуры XX стагоддзя ідэйна-тэматычных, мастацка-вобразных кампанентаў, звязаных **з украінскімі нацыянальна-культурнымі рэаліямі**. Цікавасць да ўкраінскай тэмы з боку многіх беларускіх аўтараў можна ахарактарызаваць як традыцыйную і знакавую, бо абумоўлена яна не толькі шматвекавым досведам добрасуседскіх узаемаадносін, але і пэўнымі сацыяльна-культурнымі, грамадска-гістарычнымі падзеямі. У межах даследавання плануецца зрабіць выбарку мастацкага матэрыялу на прадмет наяўнасці ўкраінскай тэматыкі, патлумачыць прычыны звароту да яе аўтараў, абазначыўшы іх частотнасць, тэматычныя прыярытэты, ахарактарызаваць эстэтычныя вартасці твораў і сэнсаўтваральны патэнцыял вобразаў з выхадам да разгорнутых ментальных характарыстык.

Адзін з раздзелаў гісторыі літаратуры і адначасова важная сфера кампаратывісцкага дыскурсу — гісторыя рэгіянальных літаратур, прадстаўленая супольнасцямі, утворанымі ў пэўных прасторавых каардынатах. **Усходнеславянская літаратурная супольнасць** — беларуская, руская і ўкраінская літаратуры — адна з іх. Унутры гэтай супольнасці існуе характэрная блізкасць і нават адзінства паміж літаратурамі, але выразна заўважны і нацыянальныя адрозненні, якія выяўляюцца ў межах кожнага асобнага гісторыка-культурнага кантэксту. На сёння бачыцца асабліва актуальным даследаваць нацыянальныя літаратуры ў агульным для ўсходніх славян сучасным гісторыка-культурным кантэксце — пачатку XXI ст., бо менавіта на гэтым этапе адбываецца закладка і станаўленне новых літаратурных традыцый.

Перайманне рэальнасці, яе вобразнае адлюстраванне і мастацкае мадэляванне свету — эстэтычныя катэгорыі, якія ляжаць у аснове працэсу перастварэння жыццёвага матэрыялу ў літаратурны тэкст. Літаратурная карціна свету — вобраз нелітаратурнай рэальнасці, створаны сродкамі мастацкай літаратуры, прытым гэты вобраз падобны да рэальнасці, але неадэкватны ёй. «Вобраз свету — калі разумець гэтыя словы ў істотным сэнсе, выяўляе не які-небудзь вобраз, што склаўся ў нас пра свет, а свет, спасцігнуты як вобраз» (М. Хайдэгер). Працэс вобразнага спасціжэння свету мастацкай літаратурай і стварэнне яго карціны — літаратурная з'ява, і ў гэтым сэнсе карціна свету як вышэйшы ўзровень літаратурнага працэсу з'яўляецца «формай часу», што ўвасабляе «ідэю часу».

Зыходзячы з таго, што менавіта мастацкая проза, а не паэзія, імкнецца да аб'ектыўнасці адлюстравання рэчаіснасці праз падрабязную абмалёўку прадметаў і з'яў, праз выказванне думак і ўяўленняў, ілюструючы светаразуменне і светаўспрыманне чалавека і нацыі, будуць даследаваны ў першую чаргу імагалагічныя тэксты празаічных жанраў сучаснай беларускай, рускай і ўкраінскай літаратуры.

Апошнім часам у асяроддзі акадэмічных літаратуразнаўцаў саспела імкненне **«ўпісаць» у айчынны навуковы кантэкст практычна не вывучаны пласт літаратуры (і паэзіі ў прыватнасці) на рускай мове**, для чаго ў межах калектыўнага праекта ўпершыню ў філалогіі робіцца спроба ахарактарызаваць яе з пункту гледжання прыналежнасці альбо да рускага, альбо да беларускага нацыянальна-культурнага поля. У працы ўпершыню ў навуцы будзе прааналізаваны феномен рускіх і беларускіх этнастэрэатыпаў, выяўленых у творчасці сучасных рускамоўных паэтаў Беларусі. Для гэтага плануецца раскрыць і асэнсаваць спосабы фарміравання і мастацкай рэпрэзентацыі нацыянальнай карціны свету, выяўляючы найболей характэрныя, паўтаральныя этнічныя стэрэатыпы, а таксама рысы рускага і беларускага менталітэту ў творчасці айчынных паэтаў, якія пішуць на рускай мове. У рамках даследавання рускамоўнай паэзіі Беларусі будзе вызначана ступень яе адчужэння ад «літаратуры метраполіі», а таксама нацыянальна-культурная прыналежнасць творчасці найбольш значных паэтычных асоб у межах беларускай літаратурнай прасторы.

Даследаванне кампаратывістаў таксама прадугледжвае выяўленне **канцэптаў «свайго» і «чужога» ў сучаснай беларускай і англійскай паэзіі.** Супастаўленне канцэптаў з мэтай выяўлення філасофска-эстэтычнага напаўнення гэтых паняццяў, тыпалагічных сыходжанняў і разыходжанняў у індывідуальна-аўтарскіх трактоўках — паказальны маркер нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці і ўспрымання беларускага і англійскага народаў праз прызму нацыянальнай ментальнасці.

Такім чынам, у даследаванні акадэмічных кампаратывістаў выяўляюцца дамінантныя характарыстыкі інтэгральнай асновы духоўна-эстэтычнага свету беларускай і еўрапейскіх літаратур — рускай, украінскай, польскай, англійскай, іспанскай і інш. Несумненна, даследаванне будзе садзейнічаць далейшаму развіццю духоўных і сацыякультурных сувязей паміж народамі Беларусі і іншых краін Еўропы.

**Мікалай МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**загадчык аддзела ўзаемасувязей літаратур**
**Інстытута літаратуразнаўства**
**імя Янкі Купалы НАН Беларусі**

# Талісман на ўсё жыццё

**У № 41 «Ліма» за 14 кастрычніка 2016 года быў надрукаваны артыкул Віктара Жыбуля «Вяртанне да чытача: гісторыя архіва Віктара Казлоўскага». Згадвалася ў артыкуле і пляменніца паэта — Станіслава Кавалёва, якая жыве ў Мінску, спрыяе ўшанаванню памяці роднага дзядзькі, з ахвотай дзеліцца ўспамінамі. Бібліятэкар па адукацыі, Станіслава Юльянаўна ўсё жыццё была звязана з літаратурна-кніжным светам: у 1965 — 1973 гадах працавала ў бібліятэцы БДУ, з 1973 па 1991 год — у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.**



Фота Кастуся Дробава.

*Станіслава Кавалёва.*

## СЯМЕЙНЫЯ ЗГАДКІ

Нарадзілася я ў 1936 годзе, таму не ведала свайго дзядзьку ў перыяд яго літаратурнага росквіту і актыўнай творчай дзейнасці. Па расповедах бацькі, гэта быў прыгожы інтэлігентны малады чалавек з пышнай шапкай кудзерыстых цёмных валасоў, з цудоўнымі светлымі вачыма, хударлявы, заўсёды прыстойна апрануты. З юнацых гадоў ён шмат чытаў, быў вельмі цікаўным, дапытлівым і складаў невялічкія чатырохрадкоўі яшчэ ў школьныя гады. Вакол яго заўсёды збіралася моладзь, якой ён чытаў свае вершы.

> *Вершы чытаў часта, але нідзе не запісваў. Думаю, што гэта былі новыя вершы, якія не ўвайшлі ў яго зборнікі. Прыгадваю асобныя радкі, але не ўпэўненая, што запомніла дакладна.*

Віктар Казлоўскі вельмі хацеў вучыцца, скончыў Белпедтэхнікум, затым — літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. Пасля гэтага застаўся ў Мінску, друкавацца ў газетах і часопісах пачаў з 1925 года.

Выхаднымі днямі часта хадзіў пешкі з Мінска ў родную вёску. І вось аднойчы, калі дзядзька вяртаўся дамоў, на яго ў лесе напалі «рабаўнікі», збілі, паранілі нажом. (У нашай сям'і былі ўпэўненыя, што гэта супрацоўнікі НКУС.) Яго адвезлі ў бальніцу. А неўзабаве ад гаспадыні кватэры, дзе жыў дзядзька, прыйшло паведамленне, што з ім адбылася нейкая прыкрая гісторыя, і ён сядзіць дома, вельмі засмучаны, знерваваны і нікому не адчыняе дзверы. Мой бацька з суседам Паўлам Казлоўскім паехалі за ім і прывезлі ў вёску. Праўда, у вёсцы дзядзька прабыў зусім нядоўга і зноў вярнуўся ў Мінск.

Аднак недзе ў 1936 — 1937 гадах яго зноў прывезлі ў вёску хворага, беспаможнага, без грошай і пакінулі там. Некаторы час жыў у нашай сям'і. Хата невялікая, асаблівага прыбытку не мелі, жылося цяжка. Аднак у хворага паэта быў свой кут, дзе стаяла невялікая шафа, этажэрка з кнігамі і ложак ля сцяны. Насупраць ложка быў палок, праз які мы з братам лазілі на печку і бавілі там багата часу.

Я добра памятаю, як Віктар Іванавіч гуляў з намі ў хованкі, выдумляў розныя гульні, смяяўся, бегаў, браў нас на рукі, падкідаў угару. Але вечарамі на яго «находзілі страхі», ён хадзіў з кута ў кут, мармытаў нешта сам сабе, на некага сварыўся: «Суччыны дзеці! Пакіньце мяне ў спакої!». Так пачало праяўляцца псіхічнае расстройства. А неўзабаве ён зрабіў сабе зямлянку...

## ТАЛІСМАН

У пачатку вайны мне было 5 — 7 гадоў. Памятаю некаторыя эпізоды жыцця Віктара Казлоўскага. Ён талісман для нас у гэты час. Вёска ў 1941 — 1944 гадах была акупаваная немцамі. Аднойчы ў хаце з'явіўся нямецкі афіцэр з аўтаматам праз плячо і аўчаркай. Сабака заскочыў на стол, з'еў тое, што было. Мама стукнула немца па твары, ён нацэліў аўтамат спачатку на яе, пасля на нас. Мы з братам сядзелі на печы і плакалі. Дзядзька хутка ўскочыў з ложка, захінуў нас сабой і крыкнуў: "Не чапай іх!». Яны доўга глядзелі адно адному ў вочы, пасля немец апусціў аўтамат і выйшаў.

Аднойчы над вёскай пралятаў самалёт. Дзядзька схапіў нас пад пахі і пабег у зямлянку, выкапаную ў агародзе. Следам за намі, вельмі нізка, ляцеў самалёт, было чуваць кулямётныя чэргі. Дзядзька шаптаў: «Выратуй нас, Божа, пашкадуй». Нам, дзецям, было так страшна! Калі дабеглі да зямлянкі, самалёт развярнуўся і паляцеў у іншы бок.

Другая зямлянка была ў лесе, непадалёк ад вёскі. Калі налятаблі самалёты, мы там хаваліся разам з дзецьмі старэйшага бацькавага брата. Удзень жанчыны вярталіся ў вёскі, каб прынесці чаго спажыўнага з агарода. Нам загадвалі сядзець ціха і не вылазіць. Але як толькі дарослыя сыходзілі, мы, шасцёра дзяцей, вылазілі з гэтага «жытла», бегалі па лесе, гукалі адно аднога, гулялі. З'явіўся раптам Віктар Іванавіч, насварыўся на нас і нікуды не выпусціў з зямлянкі, пакуль не вярнуліся дарослыя. А пасля сышоў у сваю «нару».





*Помнік на магіле В. Казлоўскага.*

Так мы знаходзілі прытулак то ў адной, то ў другой зямлянцы.

Падчас вайны нашая вёска ацалела, людзі амаль не панеслі стратаў. А вось пасля вайны быў страшэнны голад. Мы хадзілі ў поле, збіралі шчаўе. Віктар Іванавіч — з намі, пасля гатаваў шчаўе на кастры каля сваёй зямлянкі. Ён часта хадзіў па грыбы, ягады. У зямлянцы было холадна, час ад часу дзядзька жыў у маленькай прыбудоўцы ля калгаснага кароўніка і варыў бульбу для жывёліны.

## ЗГУБЛЕНЫЯ РУКАПІСЫ

У 1950-я гады я вучылася ў Сасноўскай сярэдняй школе Капыльскага раёна, на занятка хадзіла праз рэчку. Калі вясной яна разлівалася, некаторы час я жыла ў цётки. Старэйшы за мяне стрыечны брат Анатоль збіраў вечарамі моладзь і чытаў ім вершы Віктара Казлоўскага — рукапісы (я бачыла іх на ўласныя вочы). Сярод іх была паэма «Рахіль» — яе вельмі доўга абмяркоўвалі. Нібыта дзядзька прысвяціў гэтую паэму каханай дзяўчыне. Яна жыла непадалёк ад Сасноўкі, у мястэчку Пясочнае. Калі дзядзька прыязджаў у Мрочкі, часта туды наведваўся.

Дзе цяпер гэтыя рукапісы, не ведаю. Праз многія гады мы з братам прасілі Анатоля аддаць іх нам, але ён адмовіўся, нават не паказаў.

## КЛОПАТ І ПАМЯЦЬ

Аж да 1960-х гадоў Віктар Казлоўскі жыў надгаладзь. Час ад часу сваякі і суседзі прыносілі яму што-небудзь паесці. Калі мама на Каляды і Вялікдзень прыносіла яму пірагі, ён быў вельмі ўсцешаны і ўдзячны.

У пачатку 1960-х псіхічнае расстройства выяўлялася найбольш моцна. Ён быў вельмі недаверлівы, трымаўся асобна, часта хаваўся. Вельмі баяўся людзей у ваеннай форме. Нават калі прыязджаў у госці мой брат афіцэр, ён увогуле не выходзіў на вуліцу доўгі час і не набліжаўся да нашага дома. Каб не пужаць дзядзьку, брат па прыездзе дамоў хутка здымаў форму. І ўвогуле, калі да яго прыязджалі з горада староннія людзі ці нехта з Саюза пісьменнікаў, Віктар Іванавіч пужаўся і цураўся іх. А прыязджалі многія знакамітыя творцы — С. Шушкевіч, І. Шамякін, А. Якімовіч і інш. Цікавіліся яго жыццём, здароўем.

У 1960 годзе, дзякуючы клопату Саюза пісьменнікаў, Віктару Казлоўскаму пабудавалі невялічкую хатку, прызначылі пенсію. Ён павесялеў, супакоіўся, прыступы здараліся радзей. Аднак адразу ж з'явіліся і «сябры», прасілі грошай на выпіўку, запрашалі ў кампанію. Але дзядзька далучаўся да іх рэдка, стараўся паводзіць сябе годна. І калі памёр, у кішэнях знайшлі грошы, якіх нават на пахаванне хапіла.

## СПРОБА ПАРАЗУМЕННЯ

Часам ён распавядаў, як выклікалі ў НКУС, дапытвалі, прымушалі даваць паказанні на сваіх сяброў, як па віне саслужыўца Клімковіча апынуўся ў псіхіятрычнай бальніцы і ўбачыў жахі, якія ніяк не мог забыць! Тады ў гэта не надта верылася — не разумела яшчэ, што гэта быў перыяд рэпрэсій.

Аднойчы распавяла дзядзьку, што я і мае аднакурснікі былі вельмі моцна засмучаныя, плакалі, калі памёр Сталін. Ён сурова паглядзеў на мяне і... На гэтым скончыліся ўсе расповеды пра сябе на доўгія гады.

Калі ў 1962 годзе я выходзіла замуж, Віктар Іванавіч прыходзіў павіншаваць нас з мужам. Пагалены, акуратна апрануты, у белай кашулі з закасанымі рукавамі, нагавіцах цёмнага колеру са стрэлкамі. Вясёлы, бадзёры...

## ЖЫВЁЛІНЫ І ЛЮДЗІ

Віктар Іванавіч любіў прыроду, жывёл. Аднойчы п'яны сусед, прывёзшы сена, пачаў біць кабылу нагамі. Дзядзька насварыўся, пагладзіў жывёліну, прытуліўся да яе, нешта прашаптаў… Па яго твары цяклі слёзы.

Каля яго хаткі расло шмат кветак, над якімі лёталі матылькі, ён замілавана глядзеў на іх. Не дазваляў дзецям чапаць за крылы, тлумачыў, што там знаходзяцца лускавінкі, і матылькі не змогуць лётаць. Таму дазваляў толькі назіраць.

## ПАЭЗІЯ

Віктар Іванавіч часта хадзіў на бераг рэчкі, падоўгу стаяў там і чытаў вершы — меладычна, нараспеў. Я назірала здалёк, старалася не парушаць яго спакою.

Вершы чытаў часта, але нідзе не запісваў. Думаю, што гэта былі новыя вершы, якія не ўвайшлі ў яго зборнікі. Прыгадваю асобныя радкі, але не ўпэўненая, што запомніла дакладна.

Былі вершы, які ён чытаў нібы са злосцю, з выклікам, адрывіста...

У 1970-я гады Віктар Іванавіч зусім супакоіўся, часта хварэў, быў падобны да старога, рэдка выходзіў з хаткі. Памёр у лютым 1975 года, пахаваны на радзіме, у вёсцы Мрочкі.

> *Гэта быў прыгожы інтэлігентны малады чалавек з пышнай шапкай кудзерыстых цёмных валасоў, з цудоўнымі светлымі вачыма, хударлявы, заўсёды прыстойна апрануты. З юначых гадоў ён шмат чытаў, быў вельмі цікаўным, дапытлівым і складаў невялічкія чатырохрадкоўі яшчэ ў школьныя гады. Вакол яго заўсёды збіралася моладзь, якой ён чытаў свае вершы.*

У 1976 годзе бацька паставіў яму помнік, які потым займеў патрэбу ў рэстаўрацыі. У мяне было спадзяванне на пісьменніцкую супольнасць, але... 3 жніўня 2016 года я ўсталявала новы, годны, на мой погляд, помнік за ўласны кошт.

Вельмі шкада, што доўгі час імя Віктара Казлоўскага было забыта. Але гэтая несправядлівасць выпраўляецца дзякуючы нястомнай працы супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, журналістаў В. Сабалеўскага, Л. Сяліцкай па ўваскрашэнні літаратурнай спадчыны і ўшанаванні памяці майго дзядзькі.

**Падрыхтавала Жанна КАПУСТА**

# Мудры настаўнік

## Кандрат Крапіва ў маім жыцці

Кандрат Крапіва ўвайшоў у маё жыццё, калі я вучыўся ў пачатковай школе. У тыя пасляваенныя гады кніг у нашай сялянскай хаце — старая хата згарэла ў вайну, як і амаль уся вёска, — апрача падручнікаў і школьных чытанак, не было. У першым класе нават буквар выдаваўся адзін на пяцёра вучняў, але ў трэцім-чацвёртым класах я ўжо меў свае падручнікі, любіў зазіраць і ў чытанкі старэйшага брата. Там я і натрапіў на дасціпныя байкі Кандрата Крапівы. Асабліва, памятаю, мяне зацікавіў верш «Калі ў краме ёсць нястача», байкі «Дзед і Баба», «Дыпламаваны Баран», «Махальнік Іваноў», «Жаба ў каляіне», «Сава, асёл ды сонца». Калі надышоў час вучыць гэтыя байкі па праграме, ужо ведаў іх на памяць. Больш за тое, чытаў іх са сцэны нашага вясковага клуба. Я быў маленькі ростам, таму мой настаўнік Леанід Ладысаў, ён жа і дырэктар школкі, ставіў на сцэне табурэт, каб мяне лепей было відаць. Электрычнасці тады яшчэ не было, скупа свяціла керасінавая лямпа. І я звонкім галаском дэкламаваў байкі Крапівы. Узнагародай — шчырыя воплескі мазолістых далоняў аднавяскоўцаў.

А праз некалькі гадоў байкі Крапівы «Дыпламаваны Баран» і «Махальнік Іваноў» я дэкламаваў са сцэны раённага Дома культуры ў Дзяржынску (Койданава), куды прыехаў дыпламаваным спецыялістам пасля сканчэння Магілёўскага культасветвучылішча.

Мы шмат ездзілі з агітбрыгадай па вёсках раёна, заязджалі да суседзяў. А на пачатку 1957 года выступалі на сцэне Уздзенскага Дома культуры. Перад тым канцэртам я асабліва хваляваўся, бо ў зале — землякі Кандрата Крапівы.

Праз колькі год байку «Махальнік Іваноў» я чытаў са сцэны для маракоў, калі служыў на Балтыйскім флоце. Аднойчы мы выступалі на электрамеханічным заводзе «Вольта» ў Таліне. Пэўна, беларусаў у зале было няшмат, але воплескі эстонцаў, рогат мяне літаральна аглушылі. Людзі зразумелі і ацанілі дасціпнасць крапівоўскага гумару без перакладу (дэкламаваў я на беларускай мове).

У школьныя гады прачытаў і п'есы Кандрата Крапівы «Партызаны», «Хто смяецца апошнім». Прачытаў — не тое слова. Дзясяткі разоў перачытаў, некаторыя сцэны ведаў назубок.

Асабістае наша знаёмства адбылося восенню 1964 года. У Доме творчасці «Каралішчавічы» праводзіўся семінар маладых літаратараў. Прыехаў туды і я, але не як удзельнік, а ў якасці карэспандэнта моладзевай газеты, каб падрыхтаваць літаратурную старонку. Мне пашчасціла, бо ў той дзень выступаў Кандрат Крапіва. Гаварыў пра сатыру, гумар, драматургію. Пра тое, што для п'есы выключнае значэнне мае канфлікт, а для яе мастацкай пераканаўчасці — мова персанажаў, што ў п'есе не павінна быць выпадковых рэплік, лішніх слоў. Вядома, слухалі Крапіву вельмі ўважліва, задавалі шмат пытанняў. Адказваў ён коратка, дасціпна, сам усміхаўся скупа, а маладыя літаратары смяяліся ад душы.

У Мінск я вяртаўся з Кандратам Кандратавічам: мне трэ было паспець на канцэрт у філармонію. Ён пацікавіўся, адкуль я родам, дзе вучыўся, і мне давялося распавесці пра сваю вёску, пра тое, як дэкламаваў ягоныя байкі, стоячы на табурэце, як прымалі ягонага «Махальніка Іванова» ў Таліне. Гэта яго вельмі ўсцешыла.

Калі пад'язджалі да горада, Крапіва зірнуў на гадзіннік, удакладніў, калі пачынаецца канцэрт (клапаціўся, каб я не спазніўся). Каля дома на вуліцы Карла Маркса Крапіва выйшаў, падаў на развітанне халаднаватую цвёрдую далонь і сказаў шаферу, каб адвёз мяне ў філармонію.

Тады я не мог і падумаць, што праз дзесяць гадоў прыйду да Кандрата Крапівы са сваёй п'есай.

А было так. Спачатку я напісаў аднаактоўку «Ці любіце вы грэчку?». Яе ахвотна надрукаваў часопіс «Беларусь». Потым з'явілася п'еса «Пасля разводу» (першапачатковая назва «Чысты чацвер»). Гэты драматычны твор быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць», пастаўлены на радыё.

Другую п'есу — «Чабор» — я вырашыў паказаць Крапіву. Было гэта напрыканцы лістапада 1974 года, працаваў я тады адказным сакратаром часопіса «Полымя». У Акадэмію навук, дзе дамовіліся сустрэцца, ехаў з вялікім хваляваннем. У прасторным светлым пакоі сядзеў Кандрат Кандратавіч. Ён падняўся — высокі, трохі сутулаваты — выйшаў з-за стала, павітаўся за руку. Я распавёў, чаму напісаў гэтую п'есу, паскардзіўся на рэжысёраў: тое, што адзін хваліць, другі ганіць, прапануе выкінуць. «Такое бывае», — усміхнуўся Крапіва. Праз некалькі тыдняў мы сустрэліся.

— Пра тое, што ў п'есе добра, я гаварыць не буду, — пачаў Крапіва. — Мова вашых герояў даволі каларытная. І дыялогі вы ўмееце будаваць. Чаго ж не хапае? — ён падсунуў бліжэй два аркушыкі паперы. — Я вось тут выпісаў, пазначыў. На гэтай старонцы, мне здаецца, трохі фальшыва гучыць фраза. А тут не тое слова, пашукайце іншае.

Да Крапівы маю п'есу чыталі і іншыя драматургі, і рэжысёры, і ў Міністэрстве культуры, але такую зацікаўленасць і ўвагу да твора, да мяне, пачаткоўца, — не толькі ў драматургіі, але ўвогуле ў літаратуры — я ўбачыў упершыню.

— Паспрабуйце мацней закруціць сюжэт. Трэба дамагацца большай канцэнтрацыі дзеяння. Гэта будзе толькі на карысць п'есе, — параіў Кандрат Кандратавіч на развітанне.

Выйшаў я акрылены, і хмарны зімовы дзень (а было гэта 19 снежня) падаўся мне светлым, як у траўні.

Яшчэ сустрэча з Крапівой адбылася праз год. Я напісаў трэцюю п'есу «Павел і Хуаніта». Дзеянне адбываецца ў Аргенціне, Іспаніі і Францыі. Гэта гераічная хроніка. Кандрат Кандратавіч згадзіўся прачытаць. І вось я зноў пераступаю парог ягонага кабінета.

— Матэрыял вельмі цікавы. Як гэта вы адважыліся на такую п'есу? Тры краіны, мноства персанажаў, — пачаў Крапіва. — Зрэшты, калі пайсці па шляху ўмоўнага вырашэння, то гэта нічога. Адзін акцёр можа выконваць некалькі роляў. Каб знайшоўся талковы рэжысёр, мог бы атрымацца цікавы спектакль. Маштабны, сучасны. Пра гэта ж ніхто не пісаў...

На жаль, пакуль што такі рэжысёр не знайшоўся.

Незабыўныя сустрэчы з Кандратам Крапівой, яго творы вучаць паважаць літаратуру, драматургію, сур'ёзна ставіцца да сваёй работы і да працы калег.

Хачу згадаць і яшчэ адну сустрэчу. Падрыхтаваў я да друку артыкул мовазнаўца Сцяпана Грабчыкава пра слоўнікі. У той час я загадваў аддзелам навукі і мастацтва ў «Полымі». Даручылі мне весці рубрыку «Культура мовы», таму і трапіў да мяне артыкул Грабчыкава. Намеснік галоўнага рэдактара артыкул зарэзаў, маўляў, нічога новага. Але я не мог пагадзіцца з такой думкай і вырашыў звярнуцца да Крапівы як члена рэдкалегіі часопіса, акадэміка. Ён прачытаў артыкул і напісаў водгук, у якім грунтоўна прааналізаваў тэкст С. Грабчыкава і закончыў высновай: артыкул варта надрукаваць. Пярэчыць віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук ніхто ў «Полымі» не адважыўся, артыкул неўзабаве быў апублікаваны.

На юбілейнай вечарыне, прысвечанай 85-годдзю Кандрата Крапівы, Ніл Гілевіч адзначыў, што пасля Крылова ў славянскай літаратуры Крапіва — найбуйнейшы байкар і вялікі драматург. А сам юбіляр здзівіў усіх. Напрыканцы вечарыны ён падышоў да мікрафона, падзякаваў усім выступоўцам, акцёрам, гледачам — а зала была паўнюткая — і сказаў:

— Да наступнага юбілею!

І слова сваё стрымаў: пражыў больш за дзевяноста гадоў.

На вялікі жаль, тэатры Беларусі апошнім часам рэдка ставяць п'есы Крапівы, як і творы Андрэя Макаёнка, Міколы Матукоўскага, Алеся Петрашкевіча. Шмат сезонаў у Купалаўскім тэатры ішла «Брама неўміручасці», хоць і пастаўленая не зусім удала. Пастаноўшчык пайшоў па лініі знешніх эфектаў, не раскрываючы філасофскай глыбіні выдатнага драматургічнага твора. Некалі з поспехам ставіў у Магілёве камедыю «Мілы чалавек» таленавіты рэжысёр Уладзімір Караткевіч, але ён зарана пайшоў з жыцця.

Хочацца спадзявацца, што прыйдуць маладыя таленавітыя рэжысёры, для якіх беларуская драматургія будзе не чужой, а роднай, блізкай. Тады зноў убачаць святло рампы неўміручыя камедыі Кандрата Крапівы. Хочацца верыць, што народзяцца таленавітыя чытальнікі, і са сцэны загучаць байкі геніяльнага творцы.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**




*Малюнак Алесі Ісы.*

# Валожынскімі сцежкамі

З жыццёвых нізін пастушковага дзяцінства да зіхоткіх пісьменніцкіх і навуковых вышынь вывела шчаслівая жыццёвая сцежка нашчадка сялянскага роду Атраховічаў — Кандрата Крапіву. Што да працоўнага шляху, то пачаўся ён менавіта на Валожынскай зямлі, у пачатковай школе вёскі Мішаны, зусім недалёка ад Люцінкі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Тут восенню 1914 года юнак Кандрат Атраховіч у званні народнага настаўніка пачаў сваю працоўную кар'еру, якая завяршылася 26-гадовай працай на пасадзе віцэ-прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук. І няважна, што ўсяго год прапрацаваў ён у мішанскай школе (у наступным годзе быў мабілізаваны на фронт Другой сусветнай вайны), пачатак любой справы найбольш запамінаецца. Помніў Кандрат Кандратавіч і пра Валожыншчыну, пра Мішаны.

Народнага пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі БССР, выдатнага грамадскага дзеяча, акадэміка, Героя Сацыялістычнай Працы заўсёды любілі, помнілі і ўшаноўвалі жыхары Валожыншчыны. І як было не помніць і не любіць, калі яшчэ са школьных гадоў, з падручнікаў па беларускай літаратуры, пачынаецца знаёмства з яго выдатнымі сатырычнымі вершамі, байкамі і п'есамі. Што да ўшанавання, то самы апошні яскравы прыклад гэтага — нядаўняя вечарына «Сцежкамі Кандрата Крапівы» ў Ракаўскім Доме народнай творчасці, прысвечаная 120-годдзю славутага пісьменніка.

Арганізатар вечарыны, загадчыца ДНТ Хрысціна Лямбовіч здолела мабілізаваць, здаецца, усе найлепшыя творчыя сілы і Ракава (ад вучняў і настаўнікаў мясцовай школы да вядомага фальклорнага калектыву «Гасцінец»), і раёна ў цэлым. Па-зямляцку падключыла нават некаторых мінчукоў. Вядома, спатрэбілася і пэўная маральная і матэрыяльная дапамога, пра якую парупіліся начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама В. Адамовіч, дырэктар раённага Цэнтра культуры А. Конаўка, старшыня Ракаўскага сельсавета А. Мякінка.

З вуснаў старшакласнікаў Ракаўскай СШ, якія вялі вечарыну, гледачы атрымалі звесткі пра жыццёвы і творчы шлях Кандрата Крапівы. Школьнікі пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Л. Васілеўскай выканалі ўрывак з п'есы «Партызаны», паставілі арыгінальную сцэнку па матывах байкі «Дзед і баба», а гурт «Вянок» заслужыў воплескі за некаторыя песні і танцы. Па-даўняму салідна гучала дуда (дудар Алесь Лось). Васьмідзесяцігадовая Яўгенія Харужык прачытала запомнены яшчэ з дзіцячых гадоў верш «Як я пана перанёс».

Пабачылі і пачулі ракаўцы і прафесійных артыстаў. На вечарыну завітаў іх зямляк Анатоль Голуб, цяперашні артыст Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, а таксама кіраўнік івянецкага «смехавога» гурта «Дубінскія фанабэры» Валерый Мазура, які прыемна ўразіў арыгінальным выкананнем уласных гумарыстычных перакладаў-пераробак (на рускую, польскую і англійскую мовы) славутай байкі «Дзед і баба». Не ўдалося адседзецца ў якасці гледачоў і аўтару гэтага допісу, а таксама кіраўніку раённага літаратурнага аб'яднання «Рунь» Валянціне Гіруць-Русакевіч. Валянціна Францаўна падаравала сваю дзіцячую кніжку самаму юнаму ўдзельніку канцэрта. Будзем спадзявацца, што ён пойдзе вячыстай сцяжынай таго, каму была прысвечана ракаўская вечарына, якой, па сутнасці, лагічна завяршыўся распачаты яшчэ ў сакавіку «Год Кандрата Крапівы».

**Вячаслаў РАГОЙША**

З пошты «ЛіМа»

# «Мова ў бездань не зрыне...»

Новы зборнік вершаў, пародый і эпіграм Аляксандра Быкава «І тым не менш...» пабачыў свет у выдавецтве «Каўчэг».

Тэматыка вершаў звыклая для большасці аўтараў: любоў да Айчыны, тэма паэта і паэзіі, родная мова, пейзажныя накіды, філасофскія разважанні. І часта гэтыя тэмы перагукаюцца ў адным вершы, прыкладам, філасофскія замалёўкі яднаюцца з апісаннем прыроды: «Царства белай самоты // Уладарыць наноў. // Адкладаем на потым // Весні водар бароў...» — і «Колькі стомленых лёсаў, // Колькі ў сэрцах тугі! // Снег злятае з нябёсаў — // За даўгі, за даўгі...». Роздум пра сутнасць чалавечага жыцця, яго шлях на зямлі і яго шлях да неба знаходзім у змястоўным вершы «Пачатак»:

*За плугам пахадзіць калі —*
*Яно патрэбна,*
*Бо пачынаецца з раллі*
*Наш шлях да неба.*
*...І недзе там, дзе зорак стос*
*Хавае тайны,*
*Шлях пракладзе зноў да нябёс*
*Араты дбайны.*

Цікавы прыём паэт выкарыстаў у вершы «Сустрэча ў Рыме»: «Знерухомеў ад з'явы такой. // Час той сорам ці прыме? // Афрыканцы на мове маёй // Размаўлялі у Рыме!». Напачатку радкі выклікалі недавер. Але чаму? Таму што, як напісана далей, «Па праспекце Скарыны прайду — // Скарыноўца ці стрэну? // Каб штурхнуць мне яго незнарок // У натоўпе стракатым // І пачуць у адказ не папрок — // Слова з матчынай хаты! // Уздыхнуў бы з палёгкаю: "Свой!", // Мова ў бездань не зрыне. // І няхай размаўляюць на ёй // Афрыканцы у Рыме...» Калі мы самі зневажаем сваю мову, практычна не карыстаючыся ёй у паўсядзённым жыцці, то як можна чакаць, што на ёй будуць размаўляць іншаземцы ў чужой краіне? Але насамрэч галоўны вобраз у вершы — Рым, сімвал вечнасці. Яго характво і багацце прыцягвалі ўсё новых і новых заваёўнікаў. Выстаяў у войнах і, свабодны, плыве далей у сваю цудоўную будучыню. Час аказаўся бяссільным перад гэтым волатам. Вечны горад! Так і мова нашая — сімвал галоўных якасцей нацыі — на працягу вякоў столькі цярпела ад сваіх блізкіх, і не толькі, суседзяў, была пад забаронай, а, глядзі ж ты, выжыла і патроху набірае сілу.

Мікрапаэма «"Боінг" да ранішняй кавы» закранае злабадзённую тэму — тэрарыстычныя выпады супраць чалавецтва. Размова ідзе пра тэракт у ЗША 2001 года, але зразумела, што праблема глабальная: «І папярхнулася раптам планета // Званком развітальным з нябёсаў: // "Не чакай мяне да абеду. // Я кахаю цябе! Позна..."». Твор складаецца з пяці частак, быццам бы не звязаных між сабой, але ў апошнім раздзеле ўсё становіцца на свае месцы. Немінучы амерыканскі happy end — «Наканавана што — не праміне. // І толькі дух непадуладны страху. // Ізноўку бачу ў ранішнім акне, // Як галубы цалуюцца на даху...» — змяняецца апошняй страфой, дзе гаворыцца пра рызыку для любой краіны ад падобных «боінгаў»: «На скрыжаванні лёсаў і дарог — // Як і мая, так і твая дзяржава! // Ўзлятае "Боінг". Сцелецца мурог, // А недзе ў кубку астывае кава...»

Відавочна, тэма паэта і паэзіі, а менавіта чысціня творчасці, моцна непакоіць аўтара. У вершы «Графаману», які падаецца сярод жартоўных твораў, паэт адназначна выказваецца наконт прыроды таленту: «Як Бог не даў, не купіш». Ён разважае пра асабістую адказнасць за ўсё, што адбываецца на радзіме: «Паэт!.. Табе ўсё дбаць аб Беларусі // Без перапынку на абед». А ў пародыі «Матаблок — у свой радок» Аляксандр Быкаў дае параду маладому паэту Антону Рудаку: «Не пакідай ніколі без нагляду // І свой радок!». Непакоіць аўтара якасць літаратурнай крытыкі. Гэтай праблеме ён прысвяціў верш «Крытык-алігатар», дзе ў гумарыстычнай форме «размазаў» некаторых агрэсіўных пісак.

Пародыі, эпіграмы, жартоўныя вершы склалі другую частку зборніка пад назвай «Муза ў валёнках». У цэнтры ўвагі аўтара не толькі кожны верш, радок, але і кожнае слова, за якое можна «зачапіцца» і якое затым кладзецца ў аснову пародыі. А. Быкаў — тонкі знаток творчасці сяброў-паэтаў, пра што сведчаць яго пародыі, але тое, што яны часам густа прасоленыя мужчынскім гумарам, не вельмі імпануе.

Адвольна прыводжу радкі, якія выклікалі захапленне: «Якім бывае мілым здрады твар! // Я засаўку душы прыўзняць гатовы... // Ды сонца ўсход, пранізліва-пунсовы, // Засцерагае зноўку ад пачвар!»; «І як заўсёды, у душы шчымліць, // Як ранак нараджаецца барвовы. // І немагчыма, як ні хмур ты бровы, // Дзень першы ўспомніць, заўтрашні — забыць»; «Маці звыкла распаліла печ, // Каб сагрэць зімовы ранак мой»; «Дзень прыляжа // За абраз на сцяне // І не скажа: // Быў шчаслівым ці не?». Іх не так многа, гэтых радкоў, але не так і мала: «Так мала дадзена паэту. // І тым не менш, і тым не менш...»

**Надзея СЕНАТАРАВА**

# Водсветы карыдных баёў

Пісьменнік, краязнавец, выдавецкі працаўнік, ураджэнец слуцкай вёскі Вялікая Сліва Валер Санько не раз здзіўляў суразмоўцаў і чытачоў нечаканымі высновамі пра даўно вядомыя падзеі, знакамітых людзей, ацэнкамі розных грамадскіх працэсаў. Яго кнігі пра забойства Янкі Купалы і дакументальны раман пра Чарнобыльскую аварыю навязною і доказнасцю ўражваюць.

Не збаімся перабольшвання, такой з'яўляецца і кніга «Карыды вогненныя іскры» (Мінск, «Смэлтак», 2016). У ёй — аднайменная аповесць, без купюр і скарачэнняў, насуперак парадам шматлікіх рэцэнзентаў Мінска і Масквы. За 29 гадоў беларускія літаратурныя рэдакцыі непалітычную, нейтральную «Карыду» не публікавалі. Гістарычна-этнаграфічныя развагі аўтара сталі быццам забароненымі ў СССР, БССР... З 1987 года аповесць адкладалі ў доўгую шуфляду больш за трыццаць разоў. Відавочна, асобныя рэдакцыйныя энтузіясты ніяк не могуць змірыцца з нечаканымі высновамі доктара народнай медыцыны В. Санько.

Напрыклад, выснова пра дзікунства варварскіх ацтэкаў і мая: святары вырывалі сэрцы ў прыгожых хлопцаў і дзяўчат не з жадання ахвяраваць маладыя жыцці язычніцкім багам і тым больш не з жадання прысутных на ўрачыстасці звычаёва з'есці гэтыя сэрцы, а з высокага намеру хутчэй прылучыць юнацкае стварэнне да продкаў, вышняга яднання з нябеснымі ведамі.

Па вялікім рахунку, апафеоз карыды, удар шпагі — гэта лагічнае завяршэнне доўгага шляху мексіканцаў да кідкага святочнага прадстаўлення, веры, абрадаў; своеасаблівае далучэнне як да рымскіх Сатурналіяў, так і беларускіх Купалля, Калядаў. Чараўніцкая прыцягальнасць карыды не ў колькасці сутычак чалавека з быком, але ў мужнай, урачыстай прыгажосці. Сузіранне праяўленых іншым адвагі і мужнасці ўсяляе адвагу ў гледача.

Чытаецца кніга адным духам. Аўтар не паўтараецца ні думкай, ні ў выяўленні асобных сцэн. Узнімаюць дух апошнія філасофскія раздзелы аповесці, асабліва заключная, дзе ў велічным каталіцкім саборы (на сем тысяч месцаў) вернікі з крылатай адданасцю вышэптваюць малітвы.

Адзначым, што ў кнізе адначасна публікуюцца тры варыянты тэксту, на мовах беларускай, рускай ды іспанскай. Гэта карысна студэнтам і выкладчыкам, якія змогуць параўноваць варыянты перакладу. Перакладчык Мікалай Фёдаравіч Ляніўка, ураджэнец сталіцы Аргенціны Буэнас-Айраса, з адзінаццацігадовага ўзросту жыхар Мінска, выкладчык лінгвістычнага ўніверсітэта, выканаў файную працу. Аповесць на іспанскай мове чытаецца гэтаксама лёгка, як і на беларускай ці рускай.

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

Рэпліка

# Ці не прасцей праявіць увагу?

Мы часта разважаем над тэмай, як прыцягнуць увагу да беларускамоўнага перыядычнага друку. Але мне падаецца, што любыя разважанні будуць марнымі, калі не павялічваць прастору ведамасці, прастору доступу да саміх газет і часопісаў на беларускай мове.

Часта на маршрутцы альбо на электрацягніку прыязджаю ў Мар'іну Горку. Як правіла, у суботу раніцай. На выхадныя дні еду да бацькоў у вёску. Зазіраю ў мясцовыя крамы, каб набыць які гасцінец. Не мінаю дзвюх газетна-часопісных «кропак»: кіёска «Мінаблсаюздруку» і невялікай крамкі ў памяшканні чыгуначнага вакзала. Гадамі назіраю адну і тую ж карціну. У прыватнай краме дзяржаўных часопісаў няма. Ні беларускамоўных, ні рускамоўных... Газет (і «ЛіМа») — таксама.

У «саюздрукаўскім» шапіку — «Алеся», «Родная прырода», «Спецназ», «Гаспадыня». І ўсё. А дзе ж «Полымя», «Беларусь», «Нёман», «Маладосць», «Бярозка»? Дзе «Мастацтва», «Беларускі гістарычны часопіс», «Вясёлка»?.. Прызнацца, адказы кшталту таго, што, маўляў, яны не карыстаюцца попытам, стамілі. А як яны будуць карыстацца попытам, калі вырастае цэлае пакаленне, у якога гэтых выданняў проста няма перад вачыма?

Складваецца ўражанне, што гэтыя шапікі, кіёскі — не для беларускіх, не для дзяржаўных выданняў. А літаратурна-мастацкая перыёдыка — і ўвогуле нейкая невядомая «саюздрукаўскім» гандлярам медыйная прастора. Адным словам, выхаванне красвордамі і іншымі «спецыялізаванымі» выданнямі прадаўжаецца. Відаць, не толькі ў Мар'інай Горцы.

**Сяргей ШЫЧКО**

# ШЛЯХ У НЯБЁСЫ

## праз веру, надзею, любоў




У серыі «Маладыя галасы» Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі выйшаў зборнік вершаў Марыны Пашук (Наследнікавай) «Шлях у нябёсы». Назва гаваркая: пошукі гэтага шляху праходзяць праз усе вершы, злучаючы асобныя радкі ў непарыўнае адзінства.

У кожнага чалавека — свой шлях, але, на думку аўтара, ён усіх вядзе да Бога. «Шлях у нябёсы» Марыны Пашук разглядаецца як выратаванне, як духоўная асалода, як ажыццяўленне мары пра вечнасць і ўсеагульную любоў («Предо мною Вечность — трепетная даль, я могу сегодня каждого обнять»), як напамін пра хрысціянскія ідэалы ў будзённым жыцці.

У вершы на пачатку зборніка ёсць радкі: «Но если чем-то душу не задеть, Жизнь серым пролетит круговоротом». Для паэтэсы такім «духоўным дотыкам» стала вера ў Бога. Адчуваецца, што паэзія для яе — мова душы, яна звязаная з хрысціянскім светаадчуваннем і не існуе асобна ад яго. Між тым, тэрмін «рэлігійная паэзія» да вершаў Марыны Пашук не дапасуецца. Дзіўна! Радкі зборніка прасякнутыя пошукамі Бога, выратавання, душэўнага спакою, але ўсё гэта робіцца так далікатна і ненавязліва, што адпавядае ўнутранаму стану не толькі верніка, але і кожнага чалавека, здольнага глыбока мысліць. Не трэба кожны тыдзень хадзіць у царкву, каб адчуць аўтарскі настрой, таму творы «Шлях ў нябёсы» — духоўныя, а не рэлігійныя. Гармонія і вера прыходзяць не звонку, а выспяваюць у душы: «Нужно сердцем почувствовать, сердцем услышать, // Даже если оно до сих пор и молчало, // То, как в пении ветра звучит "Слава в Вышних", // И прозреть, и увидеть Великое в Малом…»

Паэзія Марыны Пашук вельмі асабістая. Здаецца, паэтэса шукае адрасата, да якога звяртаецца ў думках і разважаннях, размаўляе з ім пра нешта патаемнае і істотнае. Магчыма, таму сярод вершаў зборніка шмат прысвячэнняў: «Маме», «Святой заступнице», «Моему супругу», «Моим читателям», «Моему учителю», «Моему дорогому папочке…», «Духовному наставнику»… Вершы-прысвячэнні нагадваюць інтымную размову з блізкім чалавекам, калі гаворка ідзе і пра стаўленне адно да аднаго, і ў той жа час — пра штосьці большае за асабістае жыццё. Любоў да родных пераходзіць ва ўсеагульную любоў да чалавецтва, жыцця, сусвету. Часам атрымліваецца своеасаблівая паэтычная споведзь, часам — вершаваная малітва. Адметнасць зборніка ў тым, што на яго старонках няма спадзяванняў на лепшы лёс, няма скаргаў і нараканняў — толькі бясконцая падзяка за тое, што мы маем:

*Наша жизнь чудесами полнится,*
*Только верим ли в чудеса?*
*Видишь, солнце взошло над звонницей,*
*Освещая путь в небеса.*

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



## Таісія ТРАФІМАВА (ЯНУЧОК)

## Скрыжаванні вятроў

*Выток жыццёвы —
Родная чыгунка,
Чаканні, спадзяванні
І любоў…
Пад стук калёсаў
Б'ецца сэрца гулка,
Калі з дарог вяртаюся дамоў.*

*Мая чыгунка —
Мары і трывогі,
І скрыжаванні сіверных
вятроў.
«Не ў Рым вядуць
жыццёвыя дарогі.
Яны вядуць
да родных каранёў».*

## Каля помніка М. К. Агінскаму

*Тут, на Айчыне, ля помніка ў бронзе,
Мы ушаноўваем тыя стагоддзі.*

*Светлыя людзі: Андрэй і Паўліна,
Нізкі паклон вам за генія-сына!*

*Вечна жывы Ён, наш Міхал Агінскі.
Я адчуваю: Ён побач. Ён блізка.*

*Я ля вытокаў ягонай калыскі
Ціха ў маленні схіляюся нізка.*

**Польшча, Гузаў**

***

*Мая Фларэнцыя, —
Спачын Агінскага…
Ты мне далёкая,
Ты мне і блізкая.
Ты мне вядомая
І невядомая,
Зямля — стылёвая,
Пяро — сталёвае…*

*Краіна слаўная
І неўміручая.
І Беларусь мая
З Табой заручана!*

**Італія, Фларэнцыя**

## Бацькаўшчыне

*Моц мая,
Сіла мая,
Краса мая,
Багацце маё,
Боль мой —
У прасветлай любові да цябе,
Мая Бацькаўшчына!*

*Ганаруся тваёй велічнай славаю,
Мая Айчына!
Прыпадаю да цябе,
Зямля мая,
Узвышанай думкай,
Святою праўдай
І шчырай самаадданасцю.*

**Францыя, Парыж**

## Вяртанне

*Якое шчасцейка:
Вяртацца ў родны край, —
У рай
З чужога раю.*

*Але ж чужы,
На тое і чужы.
Я толькі у сваім
Уваскрасаю!..
Радней ад роднага —
Няма.
Цяпер я знаю.*

**Нідэрланды, Амстэрдам**

## На споведзь у дзяцінства

*Ідзём на споведзь у дзяцінства, —
Яму паклонімся спярша,
Дзе ратавала нас адзінства,
Дзе чыстаю была душа.*

*Там радасць шчасна пражывае,
І цепліць сэрца успамін.
Зямля радзімая спявае
Дзяцінству бессмяротны гімн.*



## Ірына КАРЭЛІНА

### Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

***

*Клавішы. Ноты. Далонь.
Люстэрка. Трымценне зор.
Трымай мяне. Мі-бемоль.
Забудзь мяне. Ля-мінор.
Знутры — чарцяня й анёл
на шпагах здзяйсняюць бой.
Пагроза. Напад. Укол.
З табой. Без цябе. З табой.
Сімфонія. Поўнач. Бэз.
Твой голас — з усіх бакоў.
Забудзь мяне. Фа-дыез.
Акорды. Акорд. Ако…*

***

*Брукаванка са зліткаў золата
у святле ліхтароў.
І, начной цішынёй праколатая —
да глыбінь і асноў, —
я блукаю па зорных вуліцах,
удыхаючы пыл.
Мне здаецца, вось-вось перакуліцца
у ваду небасхіл.
Гэты горад на беразе вечнасці —
заканчэнне дарог.
Там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаецца Бог.
Я іду па аблоках акацыі —
скрозь пялёсткавы рой.
Нават тут, на цэнтральным пляцы,
можна слухаць прыбой.
І адчуць — кожнай цела клетачкай,
да скразной нематы:
там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаешся ты.*

## Віно з успамінаў

*У кішэні — сухое лісцё.
Пахне мятай і чорнай рабінай.
Ты чытаеш «Віно з дзьмухаўцоў»,
а ці ёсць віно з успамінаў?
Адшукаць бы ягоны рэцэпт,
каб не страціць ні гуку, ні паху...
Чуеш, ветра нязмушаны шэпт
і бусліны клёкат над дахам?
На далонь тваю капае сок
З нераспелай, надтрэснутай слівы...
Мне б віна таго — толькі глыток,
Каб узімку вярнуцца ў жнівень.
Не надыхацца зорным святлом,
кожны вечар як быццам бы першы.
Калі з памяці робяць віно,
то яго называюць — вершы.*

***

*Я ведаю, што будзе за фіранкай:
маё адлюстраванне, неба, поле...
Скрыжуюцца чыгункі, як нажніцы,
адрэжуць назаўжды зваротны шлях.
Грукочуць колы, весела і шпарка,
але ў душы — ні радасці, ні болю —
адно жаданне: хоць на міг спыніцца,
паміж «было» і «будзе апасля».
Пранізлівы гудок ірве прастору.
Што потым? Невядомасць і пустэча.
Так многа розных станцый і ніводнай
пад назвай «Запаветная зямля».
Ратуе толькі тое, што за шторай
я бачу край і ведаю — ён вечны.
Я бачу край і ведаю — ён родны.
Нічога больш. Нічога акрамя.*

***

**Н. Г.**

*Хаваюцца ў шафу цені
ад гуку рантоўных фраз.
Сціскаюць прастору сцены,
І горла сціскае поўнач.
Давай пагаворым шчыра,
як быццам апошні раз...
Мой сумны анёл бяскрылы
прысядзе з табою побач.
Што маем? Знаходкі, згубы
ды рыфмаў духмяны стос...
Хай месяц сцякае ў кубак,
як мёд, — да апошняй кроплі.
Падзьмула з аконных шчылін —
па скуры прабег мароз.
Давай пагаворым шчыра,
каб стала адразу цёпла.*



## Адам ГЛОБУС

## Човен

*Пад небам чорным, пад яснай поўняй
самотны човен плыве па плыні,
плыве няспынна, плыве павольна…
Адно імгненне, і човен згіне.*

## Плач па чалавеку

*Сляды твае на снезе засыпае снег,
Сляды твае на лёдзе змывае вада,
След твой на пяску зацярушвае пыл,
След на траве змывае дождж…*

*Няма больш слядоў тваіх. Нідзе.*

*Замест тканіны бяру дошкі,
Замест нажніц бяру нажоўку,
Замест праса бяру гэбель,
Замест нітак бяру цвікі…
Цяпер ты прыбраны ў новы строй.
Назаўжды.
Крыж твой засыпае драбнюткі снег,
Крыж твой абмывае халодны дождж,
Крыж твой зацярушвае шэры пыл,
Падае крыж твой і зарастае травой…*

*Шэпча малітву трава забыцця. Словы
не разабраць.*

## Каляды

*Вільня пахне калядным дымам,
Салодкім дымам з твайго дзяцінства.
Вільня дыхае хатнім інтымам.
Час надыходзіць — купляць гасцінцы,
Шукаць пачастункі па шчодрых крамах,
Думаць пра добрых, любімых і блізкіх,
Думаць пра нашых, пра самых-самых...
Час — пакаваць падарункі ў валізкі.*

## Каін

*Каін першы пабачыў смерць,
Першы вырашыў Богу адпомсціць.
Час ляціць, і гадоў кругаверць
Нішчыць памяць; а Каін помніць,*

*Помніць Авеля хрыплы крык,
Што задохся на пыльнай глебе,
І халодны зялёны блік
Вока Божага ў чорным небе.*

*«Кайся Каін! — раве натоўп —
Ты абразіў любоў да брата!
Каін, ты чалавека-воўк...»
Ён на нас пазірае праз краты.*

## Пэля

*У адчыненым насцеж хляве
Пэля доіць рудую карову,
На падворак няспешна плыве
Водар смачны, малочны, здаровы…*

*Людзі кажуць, што Пэля даўно
Прадала сваё сэрца д'яблу;
Што варожыць, і ёй праз акно
Чорт прыносіць чырвоныя яблыкі;*

*Што дарэмна бяжыць у касцёл,
Не замоліць сваго вядзьмарства;
Чорт рыхтуе на Пэльку кацёл
За грахі, за падман, за пляткарства…*

*Кажуць: Ясечка — Пэлін мужык —
Не кахаў гэту бабу ніколі,
Ён пакутваў, як Бог на крыжы,
І не зведаў шчаслівай долі…*

*Зачыніўшы на зашчапку хлеў,
Пэля ціха заходзіць у хату
І пытаецца: «Ясь, ты паеў?
Можа, разам пап'ём гарбаты?..»*

## Крутагор'е

*Крутагор'е... Тваё Крутагор'е —
Спёка ў жніўні, узімку мароз,
Мёд салодкі, гарэлка горкая,
Льнозавод і прасторны пагост...*

*Ёсць тут школа, царква з касцёлам.
Ёсць чыгунка і стужка шашы...
Па іх коцяцца розныя колы
Да сталіцы ці да мяжы.*

*За мяжу, у чужыя краіны,
У чужыя куты і двары
Колы коцяцца несупынна,
Колы коцяцца, як з гары...*

*Застаюцца ў тваім Крутагор'і
Спёка летняя, снег і мароз,
Застаецца гарэлка горкая,
Льнозавод і прасторны пагост.*

## Эпітафія

*Чалавечая справа чакала цябе,
Ты прыходзіў і справу рабіў.
Ціхі ў радасці і нешматслоўны ў журбе
Працаваў, як працуюць рабы.*

*Ні выхадных, ні святаў ніколі не браў,
Дзеля справы і дыхаў, і жыў,
А калі прыпыніцца прыйшла пара,
Ты стаў прозвішчам на крыжы.*

## Пытальнікі і шматкроп'і

*Колькі ехаць засталося?
Колькі бегчы і ляцець?
Колькі крочыць мне праз восень?
Колькі на вясну глядзець?*

*Лета-восень... Восень-лета...
Новы год! Зноў адзначаў...
Час — развітвацца са светам,
А я толькі жыць пачаў...*



Яўген МАРТЫНОВІЧ

# ПАТАЛОГІЯ

*Апавяданне*

## 1

Няўпэўненасць… Гэта зло і паскудства (вар'яцтва)!

Яна гэта зразумела яшчэ ў дзясятым класе сваёй, як цяпер з іроніяй гавораць, «ну вельмі сярэдняй» школы. Але нават сёння, перад тым як узяцца за нейкую справу, адольвала тысяча сумненняў: а ці патрэбна гэта каму-небудзь; а што, калі ўбачаць; а што, калі «засцябуць»; а што, калі на галаву зваліцца цагліна?! І зноў гэтая тысяча сумненняў памнажалася тысячай «а што, калі…»

Яна пісала. З таго самага дзясятага класа. Пісала цішком, як партызанка, хаваючыся ад «варожых» куль-позіркаў і меркаванняў на гэты конт. Яна пісала, калі невыносны цяжар слоў пачынаў раздзіраць знутры. І заставалася толькі знайсці паперу і асадку, каб не звар'яцець ад гэтага цяжару…

Усе яе нататнікі і сшыткі былі «выпацканы» нейкімі занатоўкамі і планамі будучых вершаў, казак, апавяданняў і бог ведае чаго яшчэ. У ход ішлі любыя кавалачкі паперы, нават самыя дробныя шматкі. І для яе гэта былі імгненні самага сапраўднага шчасця.

Але бывалі моманты, калі патрэбныя словы не знаходзіліся. Аднак папера заўсёды (муза, фартуна, натхненне — каму як падабаецца) нібы давала яшчэ адзін шанц: *«Ну, паспрабуй яшчэ… Толькі гэтым разам не падвядзі!»* І яна спрабавала. І ў яе атрымлівалася! Так здавалася...



Колькі давялося наламаць дроў і пералапаціць славеснага смецця, перад тым як з-пад пяра выйшла нешта вартае! Максімалізм і залішняя гарачнасць толькі перашкаджалі справе, у якой мітусня падобна смерці. Але яна пераадолела гэта, як і шмат што яшчэ. Пераадолела сябе, свой страх, няўпэўненасць і сорам! І аднойчы пагрукалася ў рэдакцыю літаратурнага часопіса… Як малое дзіця (сапраўды, толькі і застаецца параўнаць свой твор з маленькім дзіцяткам, немаўлём, якое яшчэ трэба гадаваць і выхоўваць), яна пакінула папку з творамі ў кабінеце рэдактара і пайшла на вуліцу з поўнай упэненасцю, што, хутчэй за ўсё, нават і чытаць не будуць. *«Знайшлася тут пісьменніца!»*

Але хутка (недзе праз тыдзень) раздаўся тэлефонны званок! У слухаўцы прагучала яе прозвішча і самыя цудоўныя словы, якія калі-небудзь гаварылі ў жыцці: «Друкуем».

Потым яна ўжо нічога не чула…

## 2

А далей пачаліся (як жа не хочацца выкарыстоўваць гэтае змыленае слова!) «пакуты творчасці».

*«Першы крок зроблены. А што далей? Чым будзеш здзіўляць чытача і сябе?»*

А яна ж бачыла на старонках самых розных выданняў шмат іншых, як ёй здавалася, больш вартых і таленавітых «маладых і перспектыўных» творцаў, якія нястомна выдавалі шэдэўры і ні кропелькі не сумняваліся ў сваёй геніяльнасці.

Яна бачыла, яна чула, яна ведала, але пакуль не была здольна даць жыццё сваім задумам… Нешта стрэмкай сядзела ў душы і муляла:

«Не так, не тое!»

*«А як?!!!!!!»*

Пытанне, якое застаецца без адказу…

*«Пачакайце, чаму без адказу? Даў добры рэцэпт-мантру наш класік:"Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто — і тады пераможаш".*

Закралася крамольная думка:

*«А каго пераможаш? Усіх гэтых "маладых і перспектыўных" творцаў?»*

*«Недарэка! Не!!! Сябе пераможаш! Сваю ляноту, няўпэўненасць, усе гэтыя вялікія ды маленькія прычыны і ўсялякую дрэнь, якая запаўняе жыццё, забіраючы ў ім усё вольнае паветра!»*

Вось і цяпер ёй так не хацелася марна пэцкаць паперу. Але як знайсці тую адзіную неабходную тэму?

Нехта раіў часцей выходзіць «у людзі» і слухаць, прыслухоўвацца, пільна назіраць за ўсім. Назапашваць матэрыял для будучых твораў.

Але ўсе гэтыя «паляванні» не прыносілі добрых вынікаў. Яна не здолела пачуць і ўбачыць нічога вартага. Здавалася, што ўсё самае цікавае адбывалася без яе ўдзелу! У гэтым яна пераконвалася, калі праглядала стужку навін у сецівe, пасля таго як прыходзіла дадому пасля заняткаў. Там адбыўся нейкі грандыёзны этнічны (джазавы) фестываль, там — майстарклас па жывапісе, там прайшла найцікавейшая экскурсія па «невядомым» Мінску! І ўсё гэта бясплатна (не апраўдаешся адсутнасцю грошай). А дзе была яна? Адказ просты: не там! Яна нават сабе мянушку прыдумала: *«Неўтыммесцы Неўтойчас»* (імя і прозвішча).

Аднак у хвіліны адчаю тэмы знаходзілі яе самі. Потым яна зразумела, што спецыяльна нічога рабіць не трэба. Галоўнае — не прапусціць (пачуць) той невялічкі імпульс, адкінуць усе другасныя справы і пісаць. Тут ты ўжо сабе не належыш…

*~~«Як гэта называецца? Пакута? Няволя? Паталогія? Хутчэй — Наканаванне! Тое, што павінен адчуць кожны чалавек у сваім жыцці. Інакш навошта тады патрэбна тое жыццё?»~~*

Ад такіх разважанняў патыхала нейкім дзіцячым наівам, які раздражняў яе ў часы «будзённага пахмелля», калі яна перачытвала свае творы праз тыдзень-другі пасля напісання. І часцяком выкідвала ў смецніцу. Бязлітасна камечыла, не пакідаючы ніводнага шанца на выратаванне, пакідаючы (у лепшым выпадку) дзясятую частку напісанага. Гэта было ў добрыя дні. А бывалі і дні «злыя», калі заставаўся толькі попел.

*«Знайшоўся мне тут Гогаль у спадніцы!»*

## 3

Часам яна адчувала сябе разбітым на тысячы аскепкаў шклом (там трэба паспець, тое зрабіць, а яшчэ там-там-тамтарарам…), якія не здолеў бы сабраць нават самы цярплівы і зацікаўлены чалавек. Гэта было немагчыма. Нават тыя большменш ацалелыя кавалкі ўспамінаў, мар, жаданняў, мінулых сяброўскіх стасункаў, дзяцінства трушчыліся ў яе руках, не пакідаючы шанца на выратаванне… Заставалася толькі прыбраць гэтыя аскепкі і паспрабаваць зрабіць што-небудзь новае. Усё лепш, чым «высвятляць неіснуючыя адносіны з ценямі зніклага свету».

*~~«Сумна становіцца, калі амаль усё пражытае жыццё ўмяшчаецца ў адным абзацы! І гэта калі яшчэ "пашанцуе"! А то проста пранясецца, як парушынка ў паветры».~~*

*«Ну вось, зноў нейкая недарэчнасць! Што за парушынка? Што гэта за такое стаўленне да жыцця? Каму гэта цікава?»*

*«Выкрасліць!»*

***

Ёй так не хацелася множыць макулатурныя горы сваімі творамі. Напэўна, гэта быў яе самы галоўны, самы вялікі страх.

*~~«Няўжо гэта патрэбна толькі табе? Калі так, то будзе сумленна кінуць усю гэтую пісаніну і заняцца нечым больш карысным. Напрыклад, уладкавацца медсястрой ці займацца пасадкай дрэў або бульбы… Цяпер нават Гогаля з Дастаеўскім амаль не чытаюць, а ты хочаш, каб некаму была патрэбна твая лухта!»~~*

У такія моманты ёй хацелася ўсё кінуць і куды-небудзь збегчы.

Колькі разоў яна ўжо так рабіла, але гэтыя ўцёкі мала дапамагалі. Гэта была хранічная хвароба, са сваімі абвастрэннямі і часамі спакою. Лекавалася гэтая *хвароба* заўсёды аднымі і тым жа сродкамі — кнігамі. У цяжкія часы ёй дапамагалі Гогаль, Чэхаў, Бунін, Купрын, Булгакаў, Хемінгуэй, Рэмарк, Чапэк, Бітаў, Быкаў… «Літаратурная аптэчка» была заўсёды пад рукой. І да кожнай хваробы яна падбірала лекі самастойна. У моманты палёгкі яна зноў вярталася да сваёй справы, ужо больш спагадлівая да сябе: *«Ну, не ўсё так дрэнна. Можна вось тут дапрацаваць, нешта выкінуць, нешта дадаць…»*

Жыццё паступова вярталася.

## 4

*«Хочацца паддацца ўспамінам, не супраціўляцца іх плыні, якая выносіць такія нечаканыя вобразы, што здзіўляешся: няўжо гэта было са мною?*

*Некаторыя вобразы звязаны з рэчамі, якія ўжо сталі ГІСТОРЫЯЙ (як жа хутка ўсё ператвараецца ў гісторыю!), якія ўжо спынілі сваё існаванне. Напрыклад, жоўта-чырвоны трамвайчык, які быў падобны да бохана-«цаглінкі» (толькі што крошкі не сыпаліся). Але як было прыемна дабірацца на гэтым трамвайчыку ў Зялёны Луг, да сваёй сяброўкі, ці проста куды-небудзь ехаць праз вячэрні горад. І гэта было самым сапраўдным цудам! Проста ехаць праз вячэрні горад на трамвайчыку».*

*А куды падзеліся мае дзіцячыя кавярні з трыма шарыкамі марожанага на талерачцы з «ножкай» і клубнічным сіропам? Няўжо яны камусьці перашкаджалі?.. Напэўна, перашкаджалі! Інакш навошта было іх зачыняць?*

*Але я не дзівачка, якая чапляецца за мінулае! Пакуль яшчэ не!*

*Я ніколі не буду адчуваць настальгіі па «прапацелых» саляркай «Ікарусах» з парванымі гумовымі «гармонікамі» і высокімі антычалавечнымі прыступкамі (ды шмат па чым яшчэ). Дзякуй богу, яны засталіся ў мінулым…*

*Але нешта хацелася б захаваць, нешта, што дапамагае ўспомніць, якімі мы былі ўсмешлівымі… і шчаслівымі!»*

***

Апошнія некалькі радкоў яна вырашыла пакінуць. Можа, калі-небудзь спатрэбяцца… «А пакуль — пара спаць».

# «НАТАТКІ З ДЗІРАВАЙ КІШЭНІ»

## Рэчы

Абрастаю рэчамі, і гэта пужае! Бо паветра ў хаце ўжо нестае. Але ж як цяжка з імі развітвацца! Яны сталі часткай мяне, маім працягам. Мае кнігі, дыскі, лісты (не тыя, што ў электроннай скрыні, а самыя сапраўдныя лісты, са сваім пахам і гісторыяй, памылкамі і наівам першых проб пяра), нататнікі, кнігі, фотаздымкі... Якое багацце! І з кожным годам яго становіцца ўсё болей і болей.

Паліцы, шафы, балкон, леціша — усе гэта ператварылася ў вялікі склад з успамінамі, гісторыямі, цікавымі толькі табе. Іншы паглядзіць на ўсё гэтае дабро і скажа: «У печ!» Не задумваючыся, вынесе прысуд. Эпоха мінімалізму… Ідэальная прастора для гэтага чалавека. Арктыка з яе бязлітаснай пустэчай і бялюткай чысцінёй белага колеру.

«У печ!!!»

Але мне шкада. Так шкада, што трошкі брыдка ад гэтага пачуцця, сорамна гэтай сілы прыцягнення, якая існуе ў маіх рэчаў. І я працягваю чапляцца за гэтыя аскепкі памяці, спрабуючы разумець сябе і сваё мінулае. Але пакуль не атрымліваецца. Пакуль яшчэ не атрымліваецца…

## Кумір

Нешта ён зноў там выкінуў цікавае ў сеціва. Ужо тры мільёны праглядаў! Ваў-ваў-ваў! Крррa-са-ва! Такая ідэя! Такая смеласць паголіць бровы і галаву. А пачаў з барады, якую гадаваў пяць гадоў, потым захапіўся і паголіў усё цела. Сантыметр за сантыметрам…

А што на тым тыдні зрабіў? Вы б толькі бачылі (яшчэ не бачылі?!). Ён з'еў са смятанай свой пашпарт, дыплом і грошы. А потым паабяцаў нам усім, што гэта толькі пачатак!

Будзем чакаць…

Вы яшчэ сумняваецеся, што гэта новая зорка «ютубу»? Як жа добра, калі ў чалавека так шмат крэатыўных ідэй! Ніколі мне не дацягнуцца да майго куміра! Пайду лепш абяру бульбу…

## Рэаліі

Апошнім часам, калі ў нас з'явіліся манеты, людзі сталі больш уважлівымі да сваіх грошай. Як толькі ў краме ці на вуліцы пачуецца звон манет, дык амаль усе, хто знаходзіцца ў радыусе пачутага звону, пачынаюць вельмі пільна ўзірацца сабе пад ногі… «А раптам МАЁ?» Часцей за ўсё суседава! Але ж…

А якім скарбам падаецца знойдзеная манета!

Не. Дакладна, я не так радаваўся, калі раней знаходзіў папяровыя грошы. Усё ж «цвёрдыя» грошы неяк надзейней і грунтоўней (на мой погляд). Ці гэта проста вельмі далёкі адгалосак продкаў з іх талерамі ды солідамі…



**Паэтэса Любоў Шашкова, якая сёння жыве ў Казахстане, — наша зямлячка, родам з Гомельшчыны. Скончыла факультэт журналістыкі Казахскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У друку выступае з 1972 года. У 1984-м пабачыў свет першы зборнік вершаў «Пара́ сланечнікаў». Пасля былі «Ты ёсць я» (1988), «Дыялогі з надзеяй» (1991), «З трох кніг» (2000), «Луг залаты» (2006) ды іншыя кнігі.**
**Увазе чытачоў — вершы Любові Шашковай у перакладзе Міколы Мятліцкага.**

## Любоў ШАШКОВА

### Купанне каня

*Гэй, купайце каня*
*Белагрывага, ў яблыках белых!*
*Хай увойдзе ў Нуру,*
*Хваль уздыме, як струг, ускалых.*
*І па леце, па небе*
*Панясе хлапчукоў загарэлых,*
*Заіржэ і пакліча*
*Танканогіх сябровак сваіх.*

*Гэй, пачуйце*
*На ўсіх берагах*
*І на ўсіх перакатах,*
*Як на кліч пераможны*
*На струнах ігрывых вятроў*
*Адгукнецца стакроць*
*Рэчка рэхам сваім зухавата*
*І са стэпу крылатая*
*Песня ліхіх скакуноў.*

### Чарын

*Тая ціхая ноч на Чарыне чарніла чарней,*
*Толькі крумканне жаб, толькі голас такыра нясмелы,*
*Толькі шэпча аб нечым за плынню рачною ручэй,*
*І аб нечым такім, што і нам стане ўсім зразумелым.*

*Як праступіць з туману начнога вяршыня гары,*
*Так і ў нас абуджаецца наша далёкая памяць.*
*Зачараваны, ты тут усклікнуў аднойчы: «Чарын!»*
*Гэта слова тваё стала гаем, ракою, гарамі.*

*І цяпер гэтай памяці ў сэрцы хвалюючы ўздым.*
*Калі дзесь ля ракі, ля другой, між сяброў адвячоркам*
*Над табою імя маё ўзыдзе нязгаснаю зоркай,*
*Гэта чары Чарына, каханы, а я ні пры чым.*

***

*Аж да Суднага дня, што трывожна кране,*
*Дай мне, Божа, любіць тых, хто любіць мяне.*
*Колькі хопіць надзей — нітку ўсё ж не згубіць,*
*Да крыві, да мальбы — толькі жыць і любіць.*
*Колькі хопіць мне веры — усім даравць,*
*Хто ў злаеснай хлусні нітку прагне парваць.*
*Колькі хопіць любві — вузялкі завязаць,*
*Іх адною надзеяй трывала скрапляць…*

### Стэп

**Акіму Таразі**

*Які глыбокі далягляд*
*Зімою пад Карагандою.*
*Нябеснай змераны вярстою,*
*Каб не дастаў яго пагляд.*

*Каб нават птаху — даляцець,*
*Каб нават вершніку дамчацца*
*Было не ў сілах. Аказацца*
*Зімой у стэпе — згуба-смерць.*

*І тут жыла мая душа,*
*Ў бясконцасці крыляла ветрам,*
*Свяціла дальнім міражам,*
*І не адрэчаная стэпам…*

*За непрыкметнаю Нурой,*
*За пылам хвосткай снежнай стыні*
*Часінай іншаю зямной*
*Плылі ўсё тыя ж далячыні.*

*Цягнік імчаўся наўздагад*
*Стальной дарогай ад вакзала,*
*Ад той мяне, што век назад*
*І каляінкі не пазнала.*

*Нябеснай змераны вярстой,*
*Наш шлях пазначаны не намі.*
*На стэп гляджу ў імгле пустой*
*І абліваюся слязамі.*

***

**Алёне Шміт**

*Мы красавік адзначым на Ілі.*
*Усцеле шлях наплыў пяску ўсялякі,*
*Ды ў зеляніне заірдзеюць макі,*
*Нібыта свечкі ў далечы зямлі.*

*Не зразу нам адкрыюцца — о цуд! —*
*Сярод травы не зграбленай вясновай.*
*Ды радасці душа пачуе спуд,*
*Яе святлом напоўніцца нанова.*

*Яшчэ успыхне белапенны май,*
*І стэп наскрозь зацепліцца пажарам.*
*Адкрый тады абдымкі і прымай*
*Ахапкі агняцвету Божым дарам.*

*Яшчэ і Макавей надыдзе ў час,*
*Нас пачастуе макавічным хлебам…*
*Яшчэ душы жывы агмень не згас*
*Перад шматком зары, што згубіць неба.*

### Уздых

***Мама, уздых твой —***
***Лішні груз на плечы…***
**Фарыза Унгарсынава**

*Там, дзе пясок з вясны*
*Нясе вятрыска, —*
*Арык зацiх, —*
*Цягучы скрып чуцён*
*Маёй калыскі.*
*Ці мамы ўздых?*

*І там, дзе неба*
*Зазірнула ў вочы*
*Беразіны,*
*Малітвы ўздыхі*
*Сярод дня і ночы*
*Чутны.*

*Уздыхі мамы —*
*Лішні груз на плечы —*
*Усё цяжэй.*
*Але чаму — без іх —*
*Мне у далечы*
*Жыць не лягчэй?*

*…Дзе, дзе праз хмары*
*Выбліснe над хатай*
*Твой самалётны след?*
*Уздых матулін*
*Воблакам крылатым*
*Імкнецца ўслед!*

### Тау-Тургень

**Андрэю Казлову**

*Клубіцца па гарах туман,*
*Маркотны дзень на ўсіх прасторах.*
*А ты ў прасветліны заглянь:*
*Не восеньскі там позні морак, —*

*Там вільгаць і дажджы вясны,*
*Што зеляніны гоніць сокі,*
*І шум наступны лісцвяны*
*Ужо святлее скрозь аблокі.*

*І вось, абтрушваючы дождж,*
*Урук уздрыгнуў па карэнне.*
*І гэта нараджэнне ўсё ж,*
*І гэта — свету сатварэнне.*

*Рассунуўшы сувой імглы,*
*Зірнуўшы небнымі вачамі,*
*Прамень іголкаю малы*
*Прашыў прастору між гарамі.*

*Зарою неба расцвіло,*
*Вяршынь захоплены прастолы.*
*Адно імгненне — і святло*
*Асляпіць курганы і долы!*

### Там, дзе драўляны дом

**1.**

*Схілы гор — па пояс травы,*
*У паветры мёд разліты.*
*Анёл левы, анёл правы —*
*І Георгій, і Мікіта.*

*Пах маленства на далонях —*
*Дзве рукі мае адкрытых.*
*Свет у веснім пераззвоне,*
*Дзе Георгій і Мікіта.*

*І канца няма ў дарогі.*
*Паспрыяй ім, Божа светлы,*
*Вось Мікіта і Георгій,*
*Укажы ім шлях, прывець іх.*

**2.**

*Там, дзе ўстаў драўляны дом,*
*Дзе горы шчэцяцца кругом,*
*Бачна рэчка з-за фіранак, —*
*Ўзыдзе раніца на ганак.*

*Промень сонца — зайцам — скок,*
*Выганяе з хаты змрок,*
*Потым да Мікешы з Гошам:*
*Уставайце, дзень харошы!*

*Уставайце, годзе спаць!*
*Не праспіце, братцы, лета.*
*Пачынайце ўсю планету*
*Аб-жы-ваць!*



### Даліна

**1.**

*Прачнуцца з пеўняў перакрыкам зноў*
*І з ранішнім птушыным спеўным хорам.*
*Мычанне недалёкае кароў*
*Шчэ больш дабавіць хараства прасторам.*

*І ранак быццам вымыты наскрозь —*
*Гарыць, пераліваецца і ззяе.*
*І лёгкі ветрык, шэпчучы мне штось,*
*Лісцё карагачоў перабірае.*

*І гэты свет стары ў абложы сноў,*
*Тургеньскімі падпёрты курганамі,*
*Няўжо хіснуўся да сваіх асноў,*
*Затросся ноччу ходырам пад намі?!*

*Развергся чорнай прорваю нябыт?*
*Што нас трывогай у адказ кранула?*
*Спакойна спіце. Гэта рыба-кіт*
*Ў падземных водах целам варухнула.*

*І ўзыдзе дзень. І белы свет наноў*
*Праменнаю жывой красой заззяе.*
*Дзяркаты спеў суседскіх певуноў*
*Твой дрогкі страх начны пераспявае.*

**2.**

*Ў далонях гор спакойная даліна —*
*Падобны край красой на Божы рай.*
*Як здрыганецца воламам былінным,*
*Што здрыгане? — у гор яго спытай.*

*Ў далонях Госпада сагрэтая Зямля.*
*На ёй — нягоды, смерчы і раздрай.*
*На ўсё, Ўладыка, воля ёсць Твая.*
*Аднак і ў гневе — рук не расчапляй…*

### Час барбарысу

**Эльвіры і Андрэю Райхерт**

**1.**

*Над шумлівай рэчкай схілы*
*Зыркім полымем зноў свецяць.*
*Ўчора свет зялёны, мілы*
*Барбарысу час прывеціў.*

*Выдых позняга цяпла*
*Перад волкім лісця тленнем,*
*Каб рака жыцця цякла*
*З церпкім прысмакам асеннім.*

**2.**

*Ў блытаніне дзікай голля*
*Свету колкая сваволя.*
*Ў ім гарыць шыпшына жарка,*
*Буйна выспела баярка.*

*Скрозь калючыны галінаў*
*Прабірацца зноў павінна.*
*Забаўляцца ці зайздросціць?*
*Цыц! У голлі свішча хтосьці:*

*— Гэй, спявачка ў голлі, хто ты?*
*Першы замаразак грукне,*
*Абляціць заслон лістоты,*
*Стануць ягады даступней.*

*Знай адно, вяшчуння-птаха,*
*Што і мне ў зазімку гэтым*
*Асалода позніх ягад*
*Даражэйшая, чым летніх.*

**3.**

*Па тургеньскіх рыжых схілах*
*Кліч дзіцячы, сэрцу мілы,*
*І бурліць ён, зліты з рэчкай,*
*І цячэ пад небам вечным.*

*Гэту б сувязь не парваць —*
*Бессамотных светлых гукаў,*
*Каб жыццё — чаму бываць —*
*Перацекла і да ўнукаў.*

**Пераклад з рускай Міколы МЯТЛІЦКАГА**

# Міжмоўная інтэрферэнцыя

## і маўленчыя памылкі

У нашай краіне суіснуюць дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. Ва ўмовах білінгвізму (двухмоўя) пры маўленні на адной мове ўжываюцца элементы іншай, што прыводзіць да парушэння нормаў суіснуючых моў. Гэтая з'ява называецца інтэрферэнцыяй. Блізкароднасны характар беларускай і рускай моў абумоўлівае шматлікасць і ўстойлівасць памылак пры маўленні на той ці іншай мове. Беларуска-руская і руска-беларуская інтэрферэнцыя — з'ява распаўсюджаная і закранае ўсе сферы моўнай сістэмы: фанетыку, акцэнтуацыю, марфалогію, лексіку, сінтаксіс.

На сайтах байнэту знаходзім шматлікія выпадкі няправільнага ўжывання тых ці іншых моўных адзінак, што звязана найперш з моўнай інтэрферэнцыяй.

*Прылада* ***ўмацоўваецца*** *ў ніжняй частцы ветравога шкла, з унутранага боку… Пасля простай устаноўкі, абсталяванне viaBOX правільна* ***ўмацаванае*** *і гатовае да выкарыстання.*

Зразумела, што пераклад зроблены з рускага тэксту, прычым дапушчана істотная памылка. Лексема *закрепляется* перакладзена як *умацоўваецца*. Слова ж *умацоўвацца* мае наступныя адпаведнікі ў рускай мове: *укрепляться; утверждаться (твердо обосновываться); упрочиваться (становиться прочным, надежным)*. У дадзеным выпадку *закрепляется* трэба было перакласці як *замацоўваецца*, тады сэнс быў бы цалкам зразумелым.

*Нельга ўмацоўваць абсталяванне там, дзе яно абмяжоўвае* ***бачнасць вадзіцеля****.*

Тут маем непажаданую двухсэнсоўнасць. Слова *обзор* перакладзена як *бачнасць*, лексема *вадзіцель* ужыта ў форме роднага склону, што ў дадзеным кантэксце азначае, што вадзіцель дрэнна бачны. Калі адрэдагаваць гэты выраз згодна з нормамі беларускай мовы, то атрымаецца: *…дзе яно абмяжоўвае агляд вадзіцелю.*

*У цяперашні час асоба зламысніка ўсталёўваецца.*




Тут маем відавочную кальку з рускай мовы *в настоящее время*. Правільна ж перакласці гэты выраз на беларускую мову можна наступным чынам: *зараз, на дадзены момант.* Што тычыцца лексемы *ўсталёўваецца*, то тут рускае *устанавливается* перакладзена няправільна. *Усталёўвацца* можа абсталяванне, асоба — толькі *высвятляцца*. Адрэдагаваны сказ будзе такім: *На дадзены момант (зараз) асоба зламысніка высвятляецца.*

*Сярод навукоўцаў, якія займаюцца феноменам, ёсць таксама і спецыялісты з Інстытута радыяцыйнай бяспекі,* ***так як****, па адной са згадак, прычына захворвання — гэта радыяцыя.*

Назіраем калькаванне рускамоўнага выразу *так как*. У беларускай мове маецца цудоўны адпаведнік яму — *бо*, які слушна было б ужыць у гэтым сказе.

*У жылым пакоі ў кожнага студэнта ёсць свой ложак, стол,* ***стул****, шафа і тумбачка.*

Нягледзячы на тое, што некаторыя слоўнікі падаюць лексему стул са значэннем *мэбля*, раю выкарыстоўваць яе выключна ў якасці медычнага тэрміна. Для намінацыі прадмету мэблі ўжываць слова *крэсла*.

*Калі прылада* ***вымушана ўсталявана*** *ў падобнай зоне, неабходна забяспечыць яе размяшчэнне ў бяспечным месцы…*

У рускай мове *вынуждена* і *вынужденно* адрозніваюцца графічна, у беларускай мове — не: *вымушана прыйсці і вымушана ўсталявана*. Таму і маем у дадзеным выпадку цяжкі для ўспрыняцця сказ. Пры перакладзе з рускай мовы мэтазгодна было б выкарыстаць наступную канструкцыю: *калі вы былі вымушаны ўсталяваць прыладу ў падобнай зоне, неабходна размясціць яе ў бяспечным месцы…* Таксама пазбягаем непажаданай таўталогіі *забяспечыць — у бяспечным.*

*Калі вы адчуваеце любыя* ***незвычайныя*** *сімптомы, звязаныя з працай сардэчнага стымулятара, падчас знаходжання каля прылады, адыдзіце ад прылады і неадкладна звярніцеся да доктара.*

Тут рускае слова *необычные* ў дачыненні да лексемы *сімптомы* трэба было перакласці як *нязвыклыя, непрывычныя*, бо лексема *незвычайныя* ўспрымаецца з лексічным адценнем *цудоўныя, непадобныя*.

*Калі латок* ***рассунуты*** *для прыняцця паперы вялікага фармату… змясціце прыладу так, каб латок не выступаў за межы стала ці канторкі.*

У рускім варыянце латок *выдвинут* ці *раздвинут*. Тут для перакладу мэтазгодна выкарыстаць лексему *высунуты*, ад *высунуць* — «выставіць вонкі», «паказаць што-небудзь».

*Гэта можа прывесці да* ***выслізгвання*** *прылады з рук.*

Лексема *выскальзывание* перакладзена даслоўна, аддзеяслоўным назоўнікам *выслізгванне*. Такія канструкцыі гучаць ненатуральна для беларускай мовы, таму ў падобных выпадках лепш выкарыстоўваць іншыя. Напрыклад, ужываць дадаючы сказы: *Гэта можа прывесці да таго, што прылада выслізгне з рук.*

*Не падключайце прыладу да электрычнай разеткі, да якой падключаны буйныя прылады ці іншае абсталяванне, для працы якога неабходная* ***вялікая магутнасць****.*

Тут маем даслоўны пераклад словазлучэння *большая мощность*. Лексема *магутнасць* стаіць у сінанімічным радзе побач са словамі «моц», «сіла», «дужасць». Відавочна, што ў дадзеным выпадку яна не пасуе, бо скажаецца сэнс выказвання. У гэтым кантэксце, калі разглядаецца электрычнае абсталяванне, мэтазгодна ўжыць словы *энергаспажыванне* ці *энергарэсурс: …праца якога патрабуе вялікіх энергарэсурсаў.*

Несумненна, у школьным курсе беларускай і рускай моў варта разглядаць пытанні міжмоўнай інтэрферэнцыі дзеля павышэння агульнай культуры маўлення. Гэтая праблема не павінна быць «прывілеяй» выключна прафесійных філолагаў.

**Наталля ПЕРАВАЛАВА,**
**кандыдат філалагічных навук, метадыст вышэйшай катэгорыі Нацыянальнага інстытута адукацыі**

# Чым адметны беларус

## з пункту гледжання лінгвакультуралогіі

Нацыянальная літаратура адлюстроўвае духоўны досвед нацыі, асаблівасці яе культуры і ментальнасці. Даследчыкі спрабуюць расшыфраваць айчынную літаратуру як культурны тэкст, і лінгвакультуралогія — адна з навуковых дысцыплін, што можа выдатна дапамагчы ў гэтай справе.

Лінгвакультуралогія вывучае ўзаемасувязь і ўзаемаўплыў культуры і мовы ў яе функцыянаванні і, у прыватнасці, «даследуе моўныя сродкі, якія служаць для аб'ектывацыі канцэптаў і таго нацыянальна-культурнага фону, на якім канцэпты фарміруюцца». Вывучэнне канцэптаў (лінгваментальных утварэнняў накшталт *зямля, праца, песня*) дазваляе раскрыць спецыфіку ментальнасці і культуры пэўнай супольнасці.

Па меркаванні Уладзіміра Вараб'ёва, аднаго са стваральнікаў лінгвакультуралогіі, гэта дысцыпліна можа «больш выразна за іншыя фундаментальныя навукі абазначыць агульны кірунак даследаванняў: чалавек як моўная асоба, мова як увасабленне культурных каштоўнасцей, культура як найвышэйшы ўзровень мовы і г. д.». Манаграфія Кацярыны Півавар «Беларуская ментальнасць у моўнай прасторы мастацкага тэксту» пераконвае ў важкасці здабыткаў лінгвакультуралогіі. Але, па словах вядомага граматазнаўцы, кандыдата філалагічных навук Вячаслава Шчэрбіна, «калі ў Расіі і Украіне ўжо выдадзены манаграфіі, анталогіі канцэптаў і разнатыпныя слоўнікі канцэптаў, то ў Беларусі выкладу вынікаў тэарэтычных і практычных даследаванняў у галіне канцэпталогіі прысвечаны толькі разрозненыя навуковыя артыкулы». Як адзначае Кацярына Півавар, «амаль дзве трэція даследаваных канцэптаў, выбраных айчыннымі канцэптолагамі ў якасці аб'екта даследавання, з'яўляюцца рускамоўнымі даследаваннямі, паняццевы змест якіх апісваецца на матэрыяле твораў рускіх пісьменнікаў». Такім чынам, манаграфія віцебскай даследчыцы — адна з першых ластавак у беларускай лінгвакультуралогіі. Дзякуючы важкай назве кніга прыкметна вылучаецца сярод іншых навуковых выданняў, прынамсі таму, што асаблівасці беларускага менталітэту аднолькава цікавяць лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, сацыёлагаў, культуролагаў...

Даследаванне прысвечана разгляду «ядзерных адзінак карціны свету, якія валодаюць экзістэнцыйнай значнасцю як для пэўнай моўнай асобы, так і для лінгвакультурнай супольнасці ў цэлым» — канцэптам *Радзіма, народ, воля, мова, сям'я, шчасце, каханне, прастора і час.* Праз супастаўленне цытат даследчыца аналізуе, як згаданыя канцэпты рэалізуюцца ў хрэстаматыйных тэкстах беларускай літаратуры, і разглядае больш за 400 твораў, якія ў розныя часы ўваходзілі ў школьную праграму.

Элементарны чытацкі і культурны досвед падказвае, што Радзіма і мова ў хрэстаматыйных творах найчасцей пазіцыянуюцца як найвышэйшыя каштоўнасці, сям'я — як апірышча чалавека, кола самых блізкіх людзей, між якімі мае панаваць лад і згода, а шчасце — гэта і Радзіма, і каханне, і сям'я, і воля... Кацярына Півавар таксама прыходзіць да гэтых высноў, а да таго ж заўважае ў тэкстах нямала нечаканага і нацыянальна спецыфічнага.

Так, пры даследаванні канцэпту *Радзіма* на прыкладзе шматлікіх тэкстаў даследчыца дэманструе, што «для беларуса *Радзіма* — гэта хутчэй родная хата, сям'я, дзяцінства, чым дзяржава як палітычнае ўтварэнне».

Пры разглядзе канцэпту *прастора* Кацярына Півавар адзначае, што «пісьменнікі адмаўляюць для беларусаў бязладную міграцыю, для беларусаў не характэрна бясконцае блуканне; стабільны, сталы, ураўнаважаны элемент пераважае ў складзе нацыянальнай псіхікі і мыслення». Цікава і тое, што беларусы, у адрозненне ад сваіх усходніх суседзяў, не паэтызуюць бязмежныя прасторы. «Разам з тым, у рускай мове канцэпт *прастора* не вербалізуецца праз моўную адзінку *куток* (рус. — *угол*), у той час як для беларусаў характэрна апяванне роднага кутка».

Беларускія мастакі слова найчасцей уяўляюць *шчасце* як дзейнасць, працу на карысць людзям, што дакладна не супадае з поглядамі прадстаўнікоў сучаснай спажывецкай культуры. Такія канцэптуальныя несупадзенні вызначаюць пэўную дыстанцыю паміж айчыннай класікай і сучасным грамадствам, і гэты аспект даўно чакае сваіх даследчыкаў.

Разам з тым, асобныя высновы, зробленыя ў манаграфіі, патрабуюць развіцця ці ўдакладнення. Так, спрэчным падаецца меркаванне, што канцэпт *Радзіма* «займае найважнейшае месца ў масавай свядомасці беларускага народа». Сапраўды, тэма Радзімы — адна з галоўных у нашай літаратуры, бо занепакоенасць будучыняй «Айчыны» на працягу стагоддзя гучыць у сэрцах беларускіх пісьменнікаў. Магчыма, у літаратурах тых краін, дзе няма вострага адчування пагрозы для нацыянальнай культуры, патрыятычная тэма значна менш актуальная. Сцверджанне што «Канцэпт *Радзіма* з'яўляецца ключавым у беларускай нацыянальнай свядомасці і стаіць у адным шэрагу з такімі маральнымі каштоўнасцямі, як народ, воля, мова, сям'я», можна лічыць справядлівым для тых, хто асэнсоўвае сваё існаванне выключна праз беларускую культуру.



*Беларуская ментальнасць у моўнай прасторы мастацкага тэксту: манаграфія / К. С. Півавар. — Віцебск : ВДУ імя П. М. Машэрава, 2015. — 155 с.*

Аб'ектывацыя такіх канцэптаў, *як Радзіма, мова, народ* у беларускай, польскай, рускай, украінскай літаратурах сапраўды можа прадэманстраваць адрозненні ў светапоглядзе нацыянальных эліт — ці прынамсі ў той культурнай праграме, якая рэалізуецца праз фарміраванне літаратурнага канона. І манаграфія «Беларуская ментальнасць у моўнай прасторы мастацкага тэксту» бачыцца добрай нагодай для даследавання, выканаага ў рэчышчы параўнальнай лінгвакультуралогіі.

Высновы Кацярыны Півавар, абгрунтаваныя шматлікімі цытатамі, — надзейнае падмацаванне для спецыялістаў, якія цікавяцца самымі рознымі тэмамі: ад гісторыі сям'і да творчасці Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна. Прапанаваная работа — не толькі пазначэнне арыенціраў у вывучэнні беларускай ментальнасці, але і канстатацыя адметнасцей беларускай літаратуры, вартых далейшага асэнсавання.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Водгулле Віленскай школы

## Малавядомы жывапіс і графіку Міхася Сеўрука і Пётры Сергіевіча прадставілі айчынныя калекцыянеры

**Некалькі апошніх гадоў у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь склалася добрая традыцыя — арганізоўваць напрыканцы года выставачныя праекты, якія пасля яшчэ доўга застаюцца і ў памяці аматараў мастацтва, і ў гісторыі краіны. Сёлета музей падрыхтаваў выстаўку мастацкіх твораў майстроў Віленскай школы Міхася Сеўрука і Пётры Сергіевіча.**

І пра Міхася Сеўрука, і пра Пётру Сергіевіча сёння часта кажуць, што, маўляў, мастакі недаацэненыя: у свой час іх успрымалі як дзіўных творцаў, яны практычна не выстаўляліся. У калекцыях айчынных музеяў захоўваецца не так шмат іх твораў, а між тым для беларускага грамадства іх мастацтва — памяць і гісторыя. Але гэтым разам выстаўка складаецца зусім не з музейных экспанатаў. Жывапіс і графіка для экспазіцыі прадастаўленыя беларускімі калекцыянерамі. Усяго экспануецца сто пяцьдзясят твораў мастакоў, большасць з якіх — малавядомыя альбо зусім невядомыя не толькі шырокай аўдыторыі, але і спецыялістам: мастацтвазнаўцам, гісторыкам і тэарэтыкам мастацтва.

Выстаўка — нібы альбом краявідаў Беларусі. Міхась Сеўрук — майстар пейзажнага жывапісу, імкнуўся паказаць адметнасць колеравай палітры, якой багатая наша краіна. Для яго творчасці не характэрныя тэмы (актуальныя ў той час) перадавікоў вытворчасці, развіцця калгасаў і заводаў. Мастак быў сціплым і спакойным чалавекам, які бачыў у зямлі скарб і натхненне. Пра знаёмства і сяброўства з М. Сеўруком на адкрыцці выстаўкі расказваў вучань майстра, народны мастак Беларусі Леў Гумілеўскі:

— У 1944 годзе мая сям'я прыехала ў Нясвіж. Да вайны я скончыў чатыры класы, але пасля вайны вырашыў, што ўсё забыў, і пайшоў зноў у чацвёрты. У нас у класе маляванне выкладаў Міхась Сеўрук. Я быў самы старэйшы, таму і запраўляў дысцыплінай, на ўроках малявання якой, як правіла, не было. Так мы і пасябравалі з Міхаілам Канстанцінавічам. Дзякуючы яго стаўленню да справы, Нясвіж стаў маёй духоўнай радзімай, я там нарадзіўся як мастак. Калі пераехаў у Мінск, усё роўна прыязджаў у горад юнацтва, наведваў Міхаіла Канстанцінавіча і яго жонку. Гэта вялікі мастак для беларускага народа, ён быў не толькі таленавітым майстар, але і добры чалавек, вельмі інтэлігентны і адукаваны. Зараз такіх людзей я не ведаю, ды і за ўсё жыццё практычна не сустракаў.



*Пётра Сергіевіч. Эскіз вітража, 1940 г.*

Што тычыцца Пётры Сергіевіча, то гэта быў энергічны чалавек, які цікавіўся жыццём беларускага народа, яго традыцыямі. Да васьмідзясятых гадоў пра творцу практычна не гаварылі, лічылі яго больш літоўскім мастаком. Але ж час усё вырашыў: сёння творы майстра жадаюць набыць многія музеі, галерэі. Мастацкія работы Пётры Сергіевіча — доказ таго, што ён любіў Беларусь і яе культуру. Пісаў вялікія гістарычныя карціны, прысвечаныя Францыску Скарыне, Кастусю Каліноўскаму, стварыў серыю, прысвечаную Янку Купалу, распісваў касцёлы, іконы.

На пачатку васьмідзясятых мастакі Віктар Маркавец, Уладзімір Крукоўскі і мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская распачалі цікавую, але складаную шматгадовую акцыю: пачалі азнаямляць аматараў выяўленчага мастацтва з творамі прадстаўнікоў Віленскай школы, якая, вядома, адрозніваецца ад Маскоўскай і Пецярбургскай. Творцы адкрывалі выстаўкі па ўсёй Беларусі, акцэнтавалі ўвагу на традыцыях, у якіх выхоўвалася, фарміравалася ўсё пасляваеннае пакаленне беларускіх творцаў другой паловы XX стагоддзя, заклікалі людзей, у якіх была хоць якая капейка, набываць творы. Дзякуючы энтузіязму і ініцыятыве творчай суполкі, на беларускай зямлі засталася неацэнная спадчына. На адкрыцці выстаўкі калекцыянер Ігар Бархаткоў падкрэсліў, што, калі б гэтыя работы не былі набытыя на роднай зямлі, іх бы расцягнулі па ўсім свеце, таму што гэта шэдэўры. І назад за рубель ніхто б не вярнуў, прыйшлося б зноў выпрошваць, дамаўляцца, каб купіць што-небудзь. Па словах Таццяны Гаранскай, беларускія калекцыянеры, мастакі былі захоплены гэтай справай і ў выніку сталі асобнай суполкай, нават сям'ёй, якая падтрымала сваю гісторыю і мастацтва.



*Міхась Сеўрук «Паводка ў Альбе», 1949 г.*

Выстаўку мастакоў Віленскай школы калекцыянеры назвалі падарункам для сталічнай публікі напярэдадні навагодніх святаў. За кожнай прадстаўленай работай — свая гісторыя, як мастака, так і калекцыянера. Тут няма бессэнсоўных твораў і нязначных сюжэтаў, а бязмежная прастора для разваг і асацыяцый.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Метафарычнасць геаметрычных форм

## *праз тэкстыльную скульптуру і метал*



*Галіна Санько «Цыркуляцыя».*

**Калі ўяўляеш скульптуру, то на розум спачатку прыходзяць аб'екты з цвёрдых альбо пластычных матэрыялаў. Але не менш актуальная тэкстыльная скульптура. У сталічнай мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» прадстаўлена выстаўка па выніках V Міжнароднага італьянска-беларускага пленэру «Дыялог скульптур. Чырвонае. Чорнае. Італьянскі экзерсіс», дзе скульптура з тканіны дэманструе неверагодныя асаблівасці і магчымасці.**

Пленэр быў праведзены сёлета ў Італіі аўтарскай некамерцыйнай канцэптуальнай галерэяй «Брама» і, як у мінулыя разы, атрымаўся насычаным і плённым. Беларускія і італьянскія творцы ўзаемадзейнічалі, абапіраючыся на досвед у мастацтве абедзвюх краін. Мастакі аб'ядналі тэкстыльную скульптуру з металам, які надае арт-аб'екту больш брутальнасці, у той жа час не дазваляе згубіць тонкасці, пяшчотнасці. Такое сумяшчэнне кантрасных матэрыялаў — дыялог фактур, спроба аб'яднаць розную энергетыку, падкрэсліць адметнасць, глыбіню мастацкай кампазіцыі. Чырвоны і чорны — два колеры, якія аўтары выкарыстоўвалі ў творах, праз іх таксама паспрабавалі выйсці на кантакт з гледачамі. Усё атрымалася: мастацтва, яркае, смелае і арыгінальнае, прысвечанае актуальным тэмам, задумай.

Пасля пленэру паўтара месяца выстаўка экспанавалася ў Балоньі. Айчынныя мастакі зацікавілі італьянскую публіку своеасаблівым адчуваннем свету, шчырасцю, здольнасцю пераносіць гармонію ў мастацтва. На жаль, цяжкасці транспарціроўкі і афармлення мытных дакументаў не дазволілі паказаць у Мінску творы італьянскіх мастакоў, аднак іх імёны неадназова агучваліся на адкрыцці праекта.

Асаблівасць тэкстыльнай скульптуры ў тым, што яна абсалютна нязвыклая воку, таму выклікае шмат пытанняў наконт працэсу стварэння, канцэпцыі кампазіцыі. На думку куратара выстаўкі, мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн, скульптура з тканіны — даследаванне новай мастацкай прасторы праз геаметрычныя формы. Аб'ём тут адыгрывае не самую важную ролю, дапамагае выказаць мастацкую метафару, філасофскія развагі аўтара.

На выстаўцы прадстаўлены арт-аб'екты, якія адлюстроўваюць вечныя тэмы: узаемаадносіны паміж людзьмі, цыркуляцыя і марнасць жыцця, свабода ад стэрэатыпаў, вера ў прыкметы, пераўвасабленне думак у рэальнасць. Аўтары паспрабавалі выказацца так, каб іх пачулі: выбралі такія матывы творчасці, якія не страцяць актуальнасці. На адкрыцці выстаўкі прагучала меркаванне, што прадстаўленыя экспанаты могуць быць цікавыя не толькі дарослым, аматарам арыгінальнага мастацтва, але і дзецям, якія здольныя заўважаць дэталі.

Тэкстыльная скульптура, у параўнанні з бронзавай, драўлянай альбо гіпсавай, навобмацак успрымаецца неадназначна. Тут усе элементы — з розных матэрыялаў. Можна нават не дакранацца да экспанатаў, а паспрабаваць візуальна зразумець, з якіх матэрыялаў ствараюць аўтары. І гэта таксама дыялог з гледачом, прыцягненне ў мастацкі працэс. Калі бачыш скульптуры з тканіны ўпершыню (асабліва калі твораў шмат у адной прасторы), ёсць адчуванне, што патрапіў у тэатральную залу, дзе эксцэнтрычныя дэкарацыі — ужо самі па сабе акцёры монаспектакля.



*Хрысціна Высоцкая «Прыцягненне».*

Выстаўка «Дыялог скульптур. Чырвонае. Чорнае. Італьянскі экзерсіс» змагла ўразіць наведвальнікаў галерэі і кантраснасцю, і шматграннасцю. Усе перакрыжаваныя дыялогі, якія прадугледжвае экспазіцыя, здольныя стварыць гаму пачуццяў і перажыванняў: ад вострага ўнутранага канфлікту да паступовага прымірэння і спакою.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Ніна ЛАМАНОВІЧ:

# «КОЖНАЯ НОТА ПАВІННА ВЫКОНВАЦЦА СЭРЦАМ»

**Яна адна з нямногіх еўрапейскіх жанчын-хормайстраў, якія кіруюць вялікім тэатральным хорам. Сёлета народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч адзначыла свой юбілей і 40-годдзе творчай дзейнасці ў беларускім Вялікім тэатры. Канец года для яе даволі напружаны: на Мінскім міжнародным Калядным оперным форуме прадстаўлены тры вялікія «харавыя оперы». А ў сакавіку і красавіку хор Вялікага тэатра Беларусі пад кіраўніцтвам Ніны Іосіфаўны возьме ўдзел у прэм'ерах спектакляў «Сельскі гонар» П'етра Масканьі і «Чароўная флейта» Вольфганга Амадэя Моцарта.**

**— Моцны характар вы атрымалі ў спадчыну ад бацькі?**

— Так. Я вельмі люблю парадак. Не пераношу разгільдзяйства. Калі чалавек арганізаваны, можа зрабіць вельмі шмат. А разняволенасць, неарганізаванасць заўсёды перашкаджаюць. Мы з дзяцінства былі прывучаны да парадку: выхаванне было строгім.

Мой тата прайшоў вайну: другі беларускі фронт, закаўказскую ваенную акругу. Перад самай вайной, у 1938 — 39 годзе, ён скончыў паскораныя камандзірскія курсы. Вясковы хлопец Юзэф стаў Іосіфам, таму што тады імкнуліся не афішаваць польскія карані (яго бацькі каталікі, з вёскі Кустаўніца пад Мазыром, дзядулю звалі Франц Казіміравіч Ламановіч, а бабуля ў дзявоцтве — Марыля Ракіцкая). Тата быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Мама таксама ваявала, была ефрэйтарам сувязі. Пазнаёміліся яны ўжо пасля вайны. Мама руская, родам з Пензы, па адукацыі педагог — фізік і матэматык.

З-за таго, што тата ваенны, наша сям'я пераязджала з месца на месца, па ўсім Савецкім Саюзе. Калі ён выйшаў у адстаўку, мы з Далёкага Усходу пераехалі на яго радзіму, у Мазыр. Гады тры жылі ў камунальнай кватэры, у адным пакоі ўсёй сям'ёй, пакуль бацька будаваў дом. Затое потым, ва ўласным доме, у кожнага быў свой пакой. Мама, Людміла Мікалаеўна, займалася выхаваннем траіх дзяцей. Яна пачала працаваць у школе, калі мы сталі ўжо дарослымі. Якіх толькі захапленняў я ні паспрабавала: і на гімнастыку хадзіла, і на танцы, і юнатамі мы былі, і ў школьным хоры спявалі.

**— Калі вы заняліся музыкай сур'ёзна? Хто вашыя педагогі?**

— Я вучылася ў Гомелі, у музычным вучылішчы, у мяне быў выдатны педагог Пётр Фёдаравіч Кірэйцаў. Спявала ў яго ў ансамблі «Рэчанька», мы нават удзельнічалі ў тэлевізійным конкурсе «Алё, мы шукаем таленты». Ездзілі на конкурс у Маскву. Пётр Фёдаравіч быў вельмі музычным чалавекам. Менавіта ў яго я ўпершыню вучылася харавому дырыжыраванню, ён далучыў мяне да оперы. Звычайна харавікам-дырыжорам прапануюць да вывучэння акапэльныя праграмы, кантаты, араторыі. А ён чамусьці заўсёды даваў мне оперныя сцэны, і гэта вельмі падабалася. Пасля паступіла ў кансерваторыю ў Мінску ў клас Аляксея Пятровіча Кагадзеева, народнага артыста Беларусі, галоўнага хормайстра опернага тэатра. Дзякуючы яму я патрапіла ў тэатр, калі была яшчэ студэнткай першага курса.

**— Што рабіла першакурсніца ў оперным тэатры?**

— Спачатку за кулісамі стаяла. Пераглядзела ўвесь рэпертуар, вывучыла ўсю тэатральную «кухню». А калі хор сыходзіў і класы аказваліся пустымі, я займалася. У кансерваторыі было вельмі складана знайсці вольную аўдыторыю для дадатковых заняткаў. А шостай раніцы, калі прыбіральшчыца прыходзіла мыць падлогі, я ўжо сядзела ў кансерваторскім класе за фартэпіяна. А днём займалася ў тэатры.

Мы жылі ў інтэрнаце насупраць тэатра. Дарэчы, зараз з майго кабінета відаць вокны нашага першага пакоя. Потым пераехалі ў новы будынак з утульнымі пакоямі, у кожным з якіх было фартэпіяна. Па вечарах мы, студэнткі, ігралі ў чатыры рукі, вывучалі пазапраграмныя партытуры. Ці праводзілі вечары ў оперным тэатры: і скрыпачы, і піяністы, і народнікі, і вакалісты. Тады мы здавольваліся малым, у нас не было гаджэтаў, затое — оперны тэатр, філармонія, ноты. На старэйшых курсах многія пачалі дзесьці падпрацоўваць. Напрыклад, я з трэцяга курса прыйшла працаваць у оперны тэатр. Якраз ставілі оперу «Лоэнгрын» Вагнера. Для працы ў спектаклі запрасілі другі мужчынскі хор, у сувязі з чым спатрэбіліся дадатковыя хормайстры. Мяне афармілі на палову стаўкі і нагрузілі працай. Я была шчаслівая і, здаецца, наогул перастала выходзіць з тэатра.

**— Што запомнілася з кансерваторыі?**

— У тыя гады была вельмі цікавая кафедра харавога дырыжыравання, якую ўзначальваў Віктар Уладзіміравіч Роўда. Выкладалі Ганна Паўлаўна Зелянкова і Ларыса Андрэеўна Шымановіч. Я яшчэ заспела знакамітага хормайстра Мікалая Фёдаравіча Маслава. Аляксей Пятровіч Кагадзееў працаваў на палову стаўкі, бо шмат часу праводзіў у тэатры, я была ў яго адна студэнтка. Калі выпускаўся наш курс, нас было сем ці восем чалавек, і лічылася, што гэта вялікая група. А цяпер у групах, дзе я выкладаю практыку працы з оперным хорам, 24 — 28 чалавек займаюцца. Дзе яны будуць працаваць? Можа быць, у школах. Прафесія хормайстра вельмі складаная, ёй трэба прысвяціць сябе цалкам або не займацца зусім. Раней хормайстры знаходзілі сабе працу: хоры былі не толькі ва ўсіх навучальных установах, але і практычна на ўсіх прадпрыемствах і ў арганізацыях. Гэта свайго роду тымбілдынг, таму што хор — калектыўная творчасць, якая выхоўвае: калі людзі разам спяваюць, яны павінны прыслухоўвацца адзін да аднаго…

**— Дырыжоры бываюць рацыянальныя ці эмацыйныя. Ці можна такі падзел прымяніць да хормайстраў?**

— Справа ў тым, што сапраўдную музыку немагчыма рабіць з халодным сэрцам. Рацыя — гэта чыстая тэхніка, дакладнае прытрымліванне партытуры. Неахайнасць у рытме, дынаміцы выключаецца, але дакладнае прытрымліванне партытуры павінна быць афарбавана эмацыйна, кожная нота павінна выконвацца сэрцам. Музыка ўся складаецца з эмоцый. Галоўнае ў музыцы — не ў нотах.

**— Ці залежыць ступень эмацыйнасці ад таго, хто за хормайстарскім «пультам»: жанчына ці мужчына?**

— Я сустракала на сваім шляху хормайстраў-жанчын, абсалютна рацыянальных, якія ідуць за «голымі нотамі», асноўную ўвагу надаюць таму, каб спевакі пачалі і скончылі разам. Калі слухаеш такі хор, можна заснуць. І сустракала вельмі завадных, эмацыйных мужчын-хормайстраў, якія шмат энергіі аддаюць калектыву. І чым больш аддаеш, тым больш атрымліваеш. Таму хормайстар павінен быць на шмат градусаў больш «гарачым», чым тыя, хто перад ім



Ніна Ламановіч.

стаіць. Інакш хор ніколі не заспявае так, як кіраўніку трэба. А ў тэатры вобразныя спевы проста неабходныя: мы маем геніяльныя партытуры, дзе хор выступае ў розных вобразах.

**— Ці павінен хормайстар быць псіхолагам? Вы цікавіцеся праблемамі людзей у вашым калектыве?**

— У нашым хоры 72 чалавекі. Вядома, я пра іх шмат ведаю. Некаторыя самі дзеляцца са мной нейкімі праблемамі. Кагосьці запрашаю пагутарыць сам-насам. У хоры вельмі розныя людзі, але мы павінны быць аднадумцамі. Калі ты ведаеш, што ў чалавека ў дадзены момант нейкія няпростыя жыццёвыя калізіі, то разумееш, што яму не да эмацыйных спеваў, і некаторы час яго беражэш. Як і любы саліст, артыст хору можа не зусім добра гучаць, калі дрэнна сябе адчувае. Калі ў артыста ў дадзены момант «стомлены голас», побач ёсць калегі, якія яму дапамагаюць, спяваюць ярчэй. Я выдатна ведаю, хто выкладваецца на сцэне цалкам, а хто — не. Калі я не адчуваю адказу і бачу пустыя вочы, мне вельмі складана, я б сказала, што музыку з такімі людзьмі зрабіць нельга. Але, як у любым калектыве, яны ў нас, на жаль, ёсць. Калі прымаеш чалавека ў хор, яшчэ не ведаеш, як ён будзе працаваць. Оперны тэатр — асаблівае месца, тут неабходна вывучыць велізарны рэпертуар, артысты часам па паўгода ці нават па году «ўваходзяць» у яго, каб стаць сапраўдным артыстам хору, знайсці сваё месца на сцэне, ведаць усе мізансцэны, без запінкі выконваць усе оперы і, самае галоўнае, любіць тое, што ты робіш, аддавацца сваёй прафесіі цалкам.

**— З кім са знакамітых дырыжораў, рэжысёраў, артыстаў вы працавалі?**

— Пашчасціла працаваць з дырыжорамі Тацццянай Каламійцавай, Яраславам Вашчаком, Генадзем Праваторавым, Львом Ляхам, Аляксандрам Анісімавым. З рэжысёрам Сямёнам Штэйнам. Усе цікавыя асобы. Калі я прыйшла ў тэатр у 1976 годзе, у трупе было 32 салісты. І ніхто не адмаўляўся ад невялікіх роляў. Народная артыстка СССР Тамара Ніжнікава сёння спявала Разіну ў «Севільскім цырульніку», а заўтра Лісічку ў «Церамку». Юрый Бастрыкаў, народны артыст БССР, спяваў Важака малпаў у оперы «Чараўнік Смарагдавага горада», а назаўтра — Валянціна ў «Фаўсце». Людзі хацелі спяваць, няважна: вялікая партыя ці маленькая. Цяпер усё крыху інакш... А ў тэатры няма маленькіх партый і маленькіх артыстаў. У тэатры трэба ўсё ведаць, усё спяваць і лічыць за шчасце выступаць на сцэне. У дзіцячых спектаклях спявалі лепшыя спевакі, таму што дзецям трэба даваць лепшае. Я лічу, такая планка неабходная. Магчыма, я максімалістка…

**— Чаму з сімфанічным аркестрам часта выступаюць розныя дырыжоры, а з харавым калектывам — толькі галоўны або хормайстар?**

— Таму што хор — гэта інструмент хормайстра, ім жа створаны, і толькі ён, па вялікім рахунку, ведае, як ім кіраваць. Хоць ёсць прыклады, калі прыязджае хормайстар і праводзіць майстар-клас, напрыклад, для студэнцкага хору. Але мы ж не канцэртны хор. Хор опернага тэатра паўнавартасна ўдзельнічае ў пастаноўцы спектакляў, і тэатральны хормайстар, у прыватнасці я і мае калегі, ведае, як ідзе падрыхтоўка, усе тэмпы, купюры ў творы. Хормайстар, які прыехаў знекуль, можа гэтага не ведаць. Для чаго ён стане да хору? Каб паказаць, які ён выдатны прафесіянал? У гэтым няма сэнсу. Карысці калектыву гэта не прынясе. У нас занадта мала часу на падрыхтоўку спектакля. Дырыжоры, якія прыязджаюць, — гэта іншая справа, яны розныя: у кожнага сваё бачанне, свой тэмпарытм. Для хору, дарэчы, праца з новым дырыжорам заўсёды ўяўляе цікавасць. З іншага боку, хормайстар павінен так падрыхтаваць харавую партытуру, каб яго артысты з любым дырыжорам — расійскім, італьянскім, нямецкім, японскім — маглі спяваць.

**— У якіх спектаклях з рэпертуару нашага тэатра асабліва шмат цікавых харавых сцэн?**

— Вядома ж, гэта «Кармэн» Жоржа Бізэ, адна з самых папулярных еўрапейскіх «харавых опер», "Турандот" (Джакома Пучыні для хору пісаў мала, але ў гэтай, апошняй, оперы, зрабіў грандыёзную харавую партытуру). «Аіда» і «Макбет» Джузэпэ Вердзі, «Пікавая дама» Пятра Чайкоўскага і «Царская нявеста» Мікалая Рымскага-Корсакава, «Князь Ігар» Аляксандра Барадзіна і «Сівая легенда» Дзмітрыя Смольскага і многія іншыя. У рэпертуары нашага тэатра ёсць некалькі спектакляў, дзе хор працуе вельмі незвычайна. Напрыклад, у «Кармэн» артысткі хору танчаць фламенка. А як яны выконваюць «Дзяўчыны, прыгажуні» ў оперы «Яўген Анегін»! Усе думаюць, што гэта артысты балета, але гэта наш хор. Я толькі за тое, каб хор шмат рухаўся, каб яны ўмелі спяваць у любой сітуацыі. У «Сівой легендзе», напрыклад, падчас бітвы наймітаў з сялянамі артысты хору падаюць па ўсёй сцэне і акапэльна спяваюць малітву, у поўнай цемры, лежачы. Найвышэйшы пілатаж. Вядома, як і ў аркестры, дзе, напрыклад, медныя інструменты павінны сядзець разам, скрыпкі разам, так і хор павінен быць разам на сцэне. Але часам, дагаджаючы рэжысёру, калі яго канцэпцыя цікавая, я заплюшчваю на гэта вочы, і хор выходзіць з любой мізансцэны годна. У яго безліч усялякіх задач на сцэне, нашы артысты вельмі рухомыя і — брава ім!

**— Што значыць для вас ганаровае званне народнай артысткі Беларусі? Да чаго абавязвае?**

— Я часта кажу сваім калегам: калі вы будзеце спяваць дрэнна, то якая я народная артыстка? Бо менавіта ад калектыву хору залежыць, ці годна ўвасабляецца партытура на сцэне. З іншага боку, ганаровае званне хормайстру атрымаць вельмі няпроста. За ўсю гісторыю БССР і Беларусі я шостая пасля Рыгора Шырмы, Віктара Роўды, Аляксея Кагадзеева, Міхаіла Дрынеўскага, Людмілы Яфімавай. Званні даюцца, калі калектыў прафесійны і кожны яго выхад на сцэну — музычная падзея. Дзеля такіх момантаў мы ўсе служым у Вялікім тэатры.

**Вольга САВІЦКАЯ**

# «ПРАЕКЦЫЯ ДУШЫ»

## Першыя крокі беларускай анімацыі

**Анімацыйнае кіно — самы малады від кінамастацтва Беларусі, яго гісторыя працягваецца больш за 40 гадоў. Наогул, беларуская анімацыйная школа — адна з самых маладых нацыянальных школ у свеце.**

### ІМКЛІВЫМІ ТЭМПАМІ

Архівы Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» захавалі ўнікальны дакумент — тыпавы дагавор Творчага аб'яднання «Экран» (г. Масква) з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Уладзімірам Голікавым на стварэнне лялечнага фільма «Нязнайка-паэт», які планавалася рэалізаваць у 1971 годзе. Тэрміны стварэння фільма зацягнуліся, і ён быў зняты на беларускай студыі толькі ў 1972 годзе.

Першыя досведы стварэння адзінкавых беларускіх мультыплікацыйных стужак вядомыя яшчэ да 1920-х гадоў, аднак яны не мелі вырашальнага значэння для існавання цэлай кінагаліны. Ужо ў дакументальную стужку «Меліярацыя БССР», знятую ў 1935 М. Лявонцьевым, былі ўключаны анімацыйныя фрагменты — надпісы «жывымі літарамі», схемы і дыяграмы.

У 1927 годзе была створана мультыплікацыйная майстэрня, якая працавала некалькі гадоў пры кінафабрыцы «Белдзяржкіно». Асноўныя мастацкія пошукі ішлі ў рэчышчы палітычнай кінаграфікі: агітацыйных плакатаў, карыкатуры, мультсатыры. У даваенны перыяд мультыплікацыя на «Беларусьфільме» выкарыстоўвалася ў межах камбінаваных здымак для патрэб ігравога кіно, пасля вайны таксама не існавала спецыяльнага анімацыйнага аддзялення.

І толькі ў 1973 годзе на дзяржаўнай кінастудыі «Беларусьфільм» быў створаны цэх мультыплікацыі, які займаўся вытворчасцю тэхнічнага матэрыялу для навукова-папулярных фільмаў, пасля існавала майстэрня мультыплікацыйных фільмаў (з мастацкім кіраўніком Алегам Белавусавым і дырэктарам Гаральдам Вольскім). Падчас іх кіраўніцтва майстэрня перайшла з аматарскага ўзроўню на прафесійны, была створана матэрыяльна-тэхнічная база і з'явіўся асноўны кадравы штат. Энтузіясты прыцягнулі да анімацыі новых спецыялістаў, запрасілі з Масквы рэжысёраў Уладзіміра Піменава і Юрыя Бутырына.

У гэты час актыўна асвойваліся розныя тэхнікі анімацыі, у асноўным — маляваная і аб'ёмная (лялечная). Пры майстэрні стварылі мастацкі савет, у якім бралі ўдзел вядомыя драматургі і сцэнарысты Артур Вольскі, Валянцін Тарас, Фёдар Конеў, кінарэжысёр Міхаіл Пташук, аператар Юрый Марухін, мастакі Яўген Ганкін, Яўген Ігнацьеў, Уладзімір Дзяменцьеў, кампазітары Сяргей Картэс, Леанід Захлеўны.

У станаўленні айчыннай анімацыі прыкметная роля сцэнарыста і рэжысёра Алега Белавусава, які шмат у чым вызначыў развіццё айчыннай анімацыі на працягу больш як двух дзесяцігоддзяў. За яго плячыма не толькі арганізацыя мультмайстэрні — самастойнага вытворча-творчага падраздзялення кінастудыі, але і стварэнне новых жанрава-стылёвых тэндэнцый (напрыклад, анімацыйнага эпасу і публіцыстыкі), а пазней і цэлага кірунку — незалежнага анімацыйнага кіно.

Журналіст па адукацыі, Белавусаў быў аўтарам многіх літаратурных сцэнарыяў анімацыйных і дакументальных стужак, неаднаразова адзначаных прызамі і дыпломамі міжнародных і ўсесаюзных фестываляў. Невыпадкова на адным з пасяджэнняў бюро секцыі анімацыйнага кіно Беларускага саюза кінематаграфістаў рэжысёр Ігар Воўчак сказаў: «Так ці інакш, але практычна ўсе мы прыйшлі ў мультыплікацыйнае кіно з дапамогай і пры падтрымцы Белавусава. Ён шмат зрабіў і робіць для падрыхтоўкі кадраў, для развіцця беларускай мультыплікацыі».

Шмат у чым дзякуючы яго намаганням студыя мультыплікацыйных фільмаў досыць хутка перажыла працэс станаўлення і ў сярэдзіне 1980-х гадоў заявіла пра сябе ў прасторы савецкай і еўрапейскай анімацыі. Па сутнасці, перыяд станаўлення айчыннай анімацыі працягваўся крыху больш за 10 гадоў, да 1986 года. Гэта было імклівае развіццё самага маладога віду кінамастацтва, якое перажывала сваё фарміраванне складана і супярэчліва, з недастатковай вытворчай і кадравай базай, з адсутнасцю прафесійных рэжысёраў і мастакоў-пастаноўшчыкаў.

Яркі і запамінальны дэбют Белавусава-рэжысёра засведчыў фільм «Казка пра вясёлага клоўна» (1980), дзе ён выступіў таксама як аўтар сцэнарыя і тэкстаў песень. Мастак Вячаслаў Тарасаў адлюстраваў прыгожую гісторыю цікавай выяўленчай мовай са зменай каляровых і манахромных карцін. Яркі і выразны сцэнар, цікавыя візуальная і музычная драматургія — вось галоўныя складнікі дынамічнай сучаснай казкі пра адвечную барацьбу двух пачаткаў — радасці і засмучэння.



*Кадр з анімацыйнага фільма «Песня пра Зубра» (рэж. А. Белавусаў).*

### ЛЕГЕНДАРНАЕ — НА ЭКРАНАХ

Адной з этапных работ айчыннай анімацыі і сумеснай працай рэжысёра Белавусава і мастака Тарасава стаў фільм «Песня пра Зубра» (1982) паводле аднайменнай паэмы Міколы Гусоўскага, дзе адноўлены яркія і велічныя вобразы старажытнай Беларусі, карціны барацьбы народа за незалежнасць і смутку па шматлікіх ахвярах. Адлюстраванне беларускімі аніматарамі знакавых падзей гісторыі Беларусі і архетыпаў беларускай культуры стала магчымым дзякуючы мастацкаму досведу анімацыйнай студыі, выразным сродкам анімацыйнага кіно і, вядома, звароту да класічнай літаратуры, што сілкавала і накіроўвала творчую энергію беларускіх кінематаграфістаў у распрацоўцы новых тэм і сюжэтаў.

Гэта была першая буйная анімацыйная экранізацыя твора нацыянальнай літаратуры, эпічнай паэмы беларускага паэта-лацініста, гуманіста і асветніка эпохі Высокага Адраджэння. Нарэшце беларускае кіно набыло мультыплікацыйны гераічны эпас. З'яўленне яго было невыпадковым: у 1980 годзе па рашэнні ЮНЕСКА ва ўсім свеце адзначалі 500-годдзе паэмы М. Гусоўскага.

У ранні перыяд адной з балючых праблем анімацыі была адсутнасць кантактаў з мастакамі-графікамі: вядома, што сярод першакрыніц мультыплікацыі кніжная графіка займае адно з галоўных месцаў. Прыход у анімацыю і плённая дзейнасць Вячаслава Тарасава спрыялі наладжванню такіх сувязяў. Тарасаў дадаў беларускай анімацыі высокую культуру кніжнай графікі,



*Кадр з анімацыйнага фільма «Капрычыа» (рэж. І. Волчак).*

лірызм і мяккі гумар. Почырк мастака характарызуе пошук тыповага і індывідуальнага ў візуальным выглядзе герояў і асяроддзя, дакладны адбор пластыкі і характэрнай мімікі персанажа. Ён працаваў з рознымі рэжысёрамі: Львом Шукалюковым, Уладзімірам Пузанавым, Юрыем Бутырыным, Ігарам Воўчакам, Аленай Туравай, але часцей за ўсё — з Белавусавым, які зняў з мастаком амаль усе свае стужкі.

Цікава, што ў адрозненне ад многіх невялікіх дзяржаўных студый, якія абіралі ў пачатку свайго шляху адзін напрамак, аніматары «Беларусьфільма» спрабавалі самыя розныя мультыплікацыйныя тэхнікі і тэматычныя плыні. Сярод ранніх фільмаў дамінавалі народныя і аўтарскія казкі, а асноўнымі відамі тэхнікі былі маляваная і лялечная (аб'ёмная).

Зразумела, што ў першае дзесяцігоддзе практыкі мультыплікатараў узровень іх прафесійнай падрыхтоўкі не быў высокім, ды і саміх мастакоў — няшмат. За год майстэрня магла выпусціць усяго пяць — шэсць фільмаў, якія часта былі варыяцыямі стужак знакамітых савецкіх рэжысёраў. Напрыклад, рэжысёр Кузьма Крэсніцкі здымаў цікавыя казкі для дзяцей «Лістападнічак» (1977), «Ціхае балота» (1979), «Крот у лесе» (1983). У лялечнай анімацыі прызнанымі лідарамі былі рэжысёры Віктар Доўнар («Як Васіль гаспадарыў», 1983) і Наталля Лось («Гліняная Аўдотка», 1984). Таццяна Жыткоўская яскрава выступіла ў стужках «Кацяня Філя і…» (1981), «Дыназаўрык» (1982).

### ШЛЯХ ДА ПРЫЗНАННЯ

Карэнныя сацыяльныя змены сярэдзіны 1980-х гадоў прынеслі новыя тэндэнцыі ў развіццё экраннага мастацтва. Анімацыйнае кіно перажывала мастацкі росквіт і разам з дакументальным кінематографам выйшла на першы план айчыннай экраннай культуры. У 1984 годзе на студыю прыйшлі маладыя выпускнікі Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі, пазней выпускнікі Вышэйшых курсаў сцэнарыстаў і рэжысёраў (г. Масква).

На студыі з'явіліся вучні знакамітых майстроў расійскай анімацыі Юрыя Нарштэйна і Фёдара Хітрука — Ігар Воўчак, Міхаіл Тумеля, Уладзімір і Алена Пяткевічы, Віталь Бакуновіч, Аляксандр Бычкоўскі, Аляксандр Шэпетаў. Наогул, уплыў расійскай школы анімацыі стаў вырашальным для станаўлення і развіцця беларускай анімацыі.

У гэты час разгарнулася актыўная творчая праца, былі знятыя высокамастацкія творы айчыннай анімацыі, што вызначылі яе шлях да міжнароднага прызнання. У 1986 годзе арганізавалі вытворча-творчае аб'яднанне мультыплікацыйных фільмаў, мастацкім кіраўніком якога стаў А. Белавусаў, дырэктарам — Г. Вольскі. Нягледзячы на шматлікія праблемы вытворчага характару — недахоп прафесійных кадраў, тэхнічных матэрыялаў, адсутнасць эканамічнай самастойнасці, — структура зрабіла імклівы крок наперад.

Упершыню да анімацыйнага кіно была прыцягнута ўвага шырокай грамадскасці. Па ініцыятыве Беларускага саюза кінематаграфістаў у 1986 годзе быў праведзены Першы агляд моладзевага кіно Беларусі, на якім вялікі грамадскі рэзананс атрымалі анімацыйныя фільмы «Капрычыа» рэжысёра Ігара Воўчака і «Лафертаўская макаўніца» Алены Марчанка (Пяткевіч).

Гэта быў сапраўдны ўзлёт беларускай анімацыі і адначасова маніфест новага пакалення. Стужкі ўразілі гледачоў і прафесіяналаў свабоднай, асацыятыўнай логікай апавядання; незвычайнай тэхнікай чорнага парашка; спалучэннем малюнка і акцёрскай гульні. Так нарадзілася новая для беларускага кінамастацтва з'ява — аўтарскі анімацыйны фільм.

Гэта здарылася не выпадкова, а ў сувязі з патрабаваннямі часу, калі пачалося размежаванне двух напрамкаў анімацыі — аўтарскага і камерцыйнага. У розных тэматычных і стылістычных варыянтах аўтарская думка становіцца асновай лірычнага сюжэта, узнікае «праекцыя душы» на экран. Менавіта з аўтарскім напрамкам звязаны лепшыя дасягненні беларускай анімацыі, узлёт жывапісных тэхнік і пошук новых тэхналогій. Беларускія стужкі атрымалі міжнародныя прызы самага высокага ўзроўню.

**Антаніна КАРПІЛАВА**

**Працяг будзе.**

# «Калі пачнуць кананізаваць у людзі...»

## Візуалізацыя мары Уладзіміра Караткевіча

А жывіць Лазара?.. Лёгка! Бо «не памёр, а спіць». Накарміць увесь горад хлебам і рыбай пры пустых складах? Цуд, але ж здараецца. Прагнаць гандляроў з храма? Неверагодна, але трэба: дом Божы. А сабраць вакол сябе каманду з 12 верных і кемлівых? Ды і іншыя падцягнуцца… І тады магчыма тое, што здавалася немагчымым уладарам зямель і душ: Гародня стане горадам свабоды згодна з жаданнем Юрася Братчыка. І яму паверылі, прынамсі, таму што служыў людзям і радзіме шчыра. Пайшоў дзеля іх на крыж — сцвярджаюць сведкі гісторыі, што прадставіў Дзяржаўны тэатр лялек у спектаклі «Евангелле ад Іуды».

Так у сцэнічным увасабленні першай стала другая (якая ўдакладняе) назва рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Гэта наогул гісторыя пра тое, як другія могуць стаць першымі і змяніць жыццё, калі моцна захочуць. Прынамсі, могуць вызначыць арыенціры ў ім, прапанаваць свой погляд на свет і даказаць: лепш, калі больш справядлівасці ў жыцці. А яе хочацца чалавеку ў любы час і ў любой краіне. У сваім рамане Уладзімір Караткевіч пераносіць біблейскую гісторыю ў беларускае Сярэднявечча. Пераасэнсоўвае яе ў час росквіту навуковага атэізму (твор пісаўся ў сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя), калі большасць патэнцыйных чытачоў маглі не ведаць Біблію. Але імя Ісуса Хрыста жыло сярод людзей на зямлі з даўняй хрысціянскай традыцыяй. І галоўнае ў гэтай традыцыі — чыстае і сумленнае жыццё, простае разуменне таго, што ўсё павінна быць па-людску ў нейкіх самых галоўных рэчах і ўчынках.

Такім учынкам можна лічыць зварот рэжысёра Аляксея Ляляўскага да рамана Караткевіча. Трэба было добра пастарацца, каб ператварыць буйны празаічны твор (на чытанне якога пайшло б некалькі дзён) у сцэнічную дзею на тры гадзіны. І каб пры гэтым захаваць сюжэт, ключавыя маналогі і, самае галоўнае, сэнс. Гэта і ёсць тое, дзеля чаго ўзнік спектакль. Таму што Ляляўскі — той рэжысёр, які не займаецца забаўкамі, яго тэатр — гэта пляцоўка для сур'ёзных размоў, пасля якіх людзі сыходзяць з пытаннямі, працягваюць шукаць адказы ўжо па-за глядзельнай залай. Проста наш час такі, што не дарує несур'ёзнасці ў адносінах да жыцця (так, мы нібыта далёка ад Сярэднявечча з яго замкамі і брамамі, магнатамі і купцамі, крывавымі катаваннямі, шыбеніцамі і прылюднымі пакараннямі), а і ў нашым часе ўсё такія ж вострыя пытанні чалавечнасці і імкнення да праўды. Не атрымаецца збегчы ад іх у гэтым тэатры: ён правакуе на актыўнасць, як мінімум — разумовую, як максімум — удакладненне жыццёвай пазіцыі. Уважліва (нават да дэталяў: недзе яны прагаворваюцца, недзе ілюструюцца) пачытаўшы раман, рэжысёр стварыў сваю пастаноўку з уласным бачаннем гісторыі Юрася Братчыка — так, былога школяра, вандроўніка, акцёра, круцяля, падманшчыка, самазванца, не святога, але з разуменнем таго, якую мяжу нельга пераступаць у жыцці.

Нельга змірыцца, калі адымаюць каханую Анэлю, але можна пагадзіцца з прысутнасцю прыстаўленай Магдаліны, бо няма чаго хаваць насамрэч. Нельга цярпець хлусню, але можна дараваць людзям іх слабасць: калі гатовыя шукаюць веры нават у першага сустрэчнага. Нельга здраджваць радзіме і ісці на змову з ворагамі-татарамі, але можна марыць пра тое, як удасканаліць жыццё ў сваім доме. Нельга не думаць пра народ, асабліва калі ў ім не згасла тое самае пачуццё людскасці, і тады ён пераадолее вязніцы і муры самых непрыступных гарадоў. І нельга не быць чалавекам з усім наборам чыста зямных турбот і жаданняў, але калі ў табе бачаць Чалавека, то хочаш не хочаш, а прыйдзецца адпавядаць. Ну, і зусім крыху звычайных учынкаў, якія стануць цудамі, — проста таму, што нікому ў галаву не прыходзіла зрабіць так. Нібыта нейкае маралізатарства, якое нам ужо надакучыла. Але калі глядзіш на гарадзенскага самазванца-Ісуса, то разумееш: не была дарэмнай ахвяра таго, што прыняў смерць у Іерусаліме, бо ёсць нават у грэшных людзях нейкая Боская чысціня.

У тэатры перад намі герой ужо блізкага нам часу: эпоха хіпі, ды тых, каго пару дзясяткаў гадоў на нашай тэрыторыі называлі нефармаламі ці маргіналамі. А яны прыцягвалі неардынарнасцю, непадабенствам да іншых. Напрыклад, як музыка Джым Морысан, лідар гурта «*The Doors*». Яго меў на ўвазе Аляксей Ляляўскі, калі пераносіў Юрася Братчыка ў іншыя рэаліі. Рабіў гэта свядома: нараджэнне гурта супала з нараджэннем героя Юрася Братчыка ва ўяўленні Уладзіміра Караткевіча. Пісьменнік, які вельмі тонка адчуваў час і рэагаваў на падзеі, што адбываліся ў свеце (а мо і прадчуваў), таму што 1960-я гады прапанавалі шэраг выпрабаванняў жыхарам розных краін, што спарадзіла народныя рухі і гуманітарныя зрухі. Ненавязлівая і паступова ідэі агульначалавечай любові і сусветнай гармоніі, што прапаведавалі хіпі, выходзяць за рамкі субкультуры і набываюць вялікую колькасць паслядоўнікаў.



*Фота Тацяны Матусевіч.*

*Сцэна са спектакля «Евангелле ад Іуды».*

У спектаклі пра той час нагадвае музыка гурта. Але і гэты час — не галоўны герой пастаноўкі Ляляўскага. Да такой думкі скіроўвае адсылка да музычных тэм Тома Уэйтса і ўвесь гукавы шэраг (над гэтым як кампазітар працаваў Леанід Паўлёнак, аматар сучасных эксперыментаў у беларускай музыцы). І калі паглядзець на Братчыка ў спектаклі, то нават вонкава ён цяпер — чалавек з натоўпу. Самы звычайны для нас. Гэта чалавек з агульначалавечай прасторы, без прывязкі да месца. Гэтаму спрыяе металічная канструкцыя, даволі рухомая, што ператвараецца ў абстрактныя клеткі, вокны, брамы, і нават абстрактныя карціны (і куды ж без чорнага квадрата?) — але тут яны ўспрымаюцца як парталы паміж часамі і пакаленнямі. Калі перасоўвацца па іх, то Аляксей Ляляўскі і мастак-пастаноўчык Людміла Скітовіч пазначаюць: у любую эпоху могуць з'явіцца людзі, што становяцца сімваламі чалавечнасці ў асяродку, дзе пануе хлусня. Сярэднявечча Караткевіча ад тэатральнага Братчыка на далёкай адлегласці, што падкрэслівае на самым пачатку рэпрадукцыя «Тайнай вячэры» Леанарда да Вінчы, — твор для нас прызнаны мастацкі шэдэўр, а не выяўленне рэальных падзей, пра якія хочуць распавесці іх сведкі. Падзей, на якія мы глядзім вачамі калі не саўдзельнікаў, дык мінакоў, якія рэальна маглі быць побач.

Такая інтэрпрэтацыя Караткевіча не падаецца надта адвольнай, бо сам пісьменнік фактычна заклаў для гэтага глебу, будучы смелым інтэрпрэтатарам гісторыі Ісуса Назараніна на беларускі лад з улікам менталітэту, мясцовага ландшафту, нават асаблівасцяў пачуцця гумару: яго Іуда выклікае сімпатыю ўжо хаця б таму, што ў адрозненне ад іншых умее лічыць да 30 (але насамрэч ён да канца з тым, каго сталі называць Хрыстом). Ляляўскі ў сваім прачытанні ідзе далей: паказвае, што вось такія адзінкі і маргіналы, недасканалыя па жыцці, але сапраўдныя пасіянарыі, могуць аваладаць розумамі людзей, што ў іх будуць не проста паслядоўнікі, а адданыя прыхільнікі, і гэта гісторыя можа здарыцца нават у наш час (які насамрэч галоўны для рэжысёра).

У тэатральным вырашэнні лялечнага тэатра гісторыя аказалася і вельмі чалавечай па форме: на сцэне дзейнічаюць акцёры-людзі. Яны розныя: з адкрытымі тварамі Братчык і яго паплечнікі. Уладары-кіраўнікі-пастыры-законнікі — пад маскамі, але іх вонкавае выяўленне і падача дае адсылку да першасвятароў 2000-гадовай адлегласці. Сутнасць тая ж: прыгожыя, але мёртвыя словы фарысеяў. Рэжысёр яшчэ і ўзмацняе адчуванне мерцвякоў (згодна з заўвагай Караткевіча), кладучы іх у пэўных сцэнах у труны. Супрацьлеглымі — маленькімі, але з лёгкімі, ледзь прыкметнымі німбамі з дроту выглядаюць лялькі Братчыка-Хрыста і ягоных «апосталаў». Лялькі гэтыя ўзнікаюць, калі вясёлую, але зняволеную, кампанію вандроўнікаў вырашылі выкарыстаць у сваёй гульні гаспадары жыцця. Але яны ўсё ж ідуць сваім шляхам — чалавечым. І вельмі беларускім, калі ўзгадаць гісторыю. Нам нагадваюць яе: сякеры, што ўразаюцца ў бервяно-дарогу, шыбеніцы, што паўстаюць уздоўж яе. Лялькі-ідалы, лялькі-вязні, лялькі, што так імкнуцца ператварыцца ў людзей і звацца імі. Яны ідуць за Братчыкам і ў прынцыпе гатовыя паверыць таму, хто хоць бы гатовы напружвацца і рызыкаваць дзеля іх. За ім пайшлі, таму што задаваў пытанні, якія іншыя нават баяліся вымавіць. Ім патрэбны Хрыстос, неабыякавы да іх гора і радасці, які дзеля іх здзейсніць цуд, — і тады можна падтрымаць і нават выйсці яго ратаваць. У адрозненне ад рымскай правінцыі Іудзеі героямі ў нас не нараджаюцца, але бываюць ліхія часы, калі героямі становяцца. Ці ўзносяцца як героі, абраўшы свой крыж.

Крыжы на сцэне з'яўляюцца перыядычна. То як метафара ўзятай на сябе справы, то як вобраз шляху. То як сімвал магчымай расправы, за якой — мы ж ведаем — адкрываецца вечнасць для кожнага дзякуючы Ісусу Хрысту. У XXI стагоддзі ён і сапраўды як супергерой, да чаго звяртае суперкрыж, які з'яўляецца на сцэне: самы магутны сярод іншых, ён яшчэ і ззяе, пераліваецца агнямі (ці не бачылі мы чагосьці падобнага?), нібыта ў якім шоу. Сучасны чалавек падкі на штучныя спецэфекты. Але ці патрэбныя яны сапраўднай — жывой — веры ў Бога? Тым больш у таго, што быў чалавекам, пакутаваў і паміраў па-чалавечы? Вось як Юрась Братчык зусім жа не хацеў станавіцца Богам. Але даказаў, што ўсё магчыма не толькі Богу, але і чалавеку. Магчыма нават быць укрыжаваным дзеля іншых.

Як сімвал гэтага шляху на сцэне, літаральна ў паветры, утвараецца крыж. Спачатку пусты. У яго становіцца Юрась Братчык, у дадзеным выпадку герой Ляляўскага. Без казачна-паэтычнага візуалізаванага працягу пра сейбіта новага жыцця, як у рамане, мы бачым яго на крыжы і застаемся з пытаннем. Таму што ў кожнага чалавека ў жыцці бываюць моманты, калі ён здае свой іспыт на людскасць.

А калі б цяпер здарылася прадказанае другое прышэсце і Хрыстос з'явіўся б сярод нас, як бы з ім абышліся мы? Ці пачулі б? Зразумелі? Пазналі?.. Зноў адправілі б на крыж?

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*Акцыя*

# Навагоднія цуды ад Вялікага тэатра

**Новы год і Каляды — добрая нагода, каб правесці час разам з сям'ёй у святочных клопатах. Цікавую магчымасць для сумеснай творчасці прапануе Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета.**

Сёлета адміністрацыя тэатра ў трэці раз запрашае дзяцей і іх бацькоў узяць удзел у самай сямейнай падзеі снежня — конкурсе «Навагодняя тэатральная цацка».

Гледачы ў Вялікі тэатр ходзяць не толькі вялікія, але і маленькія. І кожны раз пад Новы год яны чакаюць цудаў. Ці не цуд — убачыць у калідоры такога прыгожага і велічнага збудавання на высокай ёлцы цацку, змайстраваную ўласнымі рукамі? Галоўныя патрабаванні конкурсу: зрабіць упрыгожванне для ёлкі, якое б адпавядала сцэнічнай тэматыцы, і даслаць яго на адрас тэатра не пазней за 28 снежня. Астатняе залежыць толькі ад фантазіі маленькага творцы! Узнагароды пераможцам уручаць на пачатку студзеня падчас святочнай імпрэзы з Дзедам Марозам і Снягуркай. Усе ўдзельнікі атрымаюць дыпломы, а лепшыя вырабы адзначаць памятнымі сувенірамі ад тэатра і спонсараў. Галоўны прыз — квіткі на спектакль для дзяцей з рэпертуару Вялікага тэатра на ўсю сям'ю.

— Цацкі, што мы атрымліваем, вельмі цікавыя і не падобныя адна да адной ні па абраных тэмах, ні па тэхніцы выканання, — распавяла Вераніка Русаковіч, вядучы рэдактар службы маркетынгу, інфармацыі і рэкламы Вялікага тэатра. — Пераможцу сярод таленавітых дзяцей вызначыць цяжка, таму, акрамя першага, другога і трэцяга месцаў, мы штогод вылучаем дадатковыя намінацыі.

Летась удзел у конкурсе ўзялі больш як 80 сямей з усёй Беларусі. Некаторым сем'ям так спадабалася майстраваць разам, што на адной цаццы не спыніліся і дасылалі ў Вялікі тэатр па дзве, пяць, нават дзесяць... З паперы, кардону, тканіны, нават вязалі. На суд журы адправіліся Шчаўкунок у чырвоным камзоле, танцоўкі балерыны, доктар Айбаліт з вернымі сябрамі, прыгожыя сняжынкі, вясёлыя званочкі і разнастайныя навагоднія шары. А Баба Яга і Мышыны Кароль атрымаліся ў дзяцей не злымі, а станоўчымі, сімпатычнымі.

А яшчэ ўдзельнікі конкурсу маюць магчымасць стаць добрымі чараўнікамі: у наступным годзе іх навагоднія цацкі ператворацца ў святочныя падарункі, якія супрацоўнікі Вялікага тэатра перададуць дзецям з інтэрнатаў. Сёлета цацкі, зробленыя ўдзельнікамі мінулага конкурсу, паедуць у школу-інтэрнат № 10 горада Мінска: навагоднія свята павінна завітаць да кожнага!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Мастацкае вымярэнне

## ў арт-праекце «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока»

**Свет стракаты, але кожная фарба ў ім каштоўная, кожная кранае, асабліва калі ў ёй закладзена эмоцыя, характэрная для пэўнага народа. Але і адзін яго прадстаўнік — калі ён мастак — можа сведчыць пра сваю радзіму. Доказы прадстаўлены на маштабнай выстаўцы «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока», што працуе ў мастацкай галерэі народнага мастака СССР і Беларусі Міхаіла Савіцкага ў Мінску.**



*Довіле Тамкуце «Памяць», 2013 г.*

Маштабны праект таксама стракаты: у ім ёсць і напоўненасць жыццём праз сакавітыя фарбы (яны адразу прыцягваюць у жывапісных творах Зураба Цэрэтэлі), крохкасць і паэтычнасць захопленасці імгненнямі (што дэманструюць працы францужанкі Ан-Мары Валадось), ёсць разважлівасць і філасофія («Ідзі за часам» заклікае італьянскі мастак Джузэпэ Атыні). Але шэраг прац прапануюць разважаць пра пошук ідэнтычнасці і асэнсаванне сябе (народаў) у вялікай прасторы свету (у творы немкі Зігфрыд фон Гунтэн, Довіле Тамкуце з Літвы, Ерлан Назаркулаў з Казахстана і іншыя). Прынамсі, прасторы, якую аб'ядноўвае Еўропа. Нават Еўразія — геаграфічнае прадстаўніцтва даволі шырокае. У праекце ўзялі ўдзел трыццаць мастакоў з дваццаці васьмі краін Еўропы.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей адзначыў:

— Адметна, што такая выстаўка прадстаўлена ў Мінску, які стаў сімвалам дыялогу паміж рознымі народамі ў палітычных і эканамічных пытаннях. Выстаўка надае новае вымярэнне гэтаму дыялогу — мастакае. Падобныя маштабныя праекты пацвярджаюць ісціну пра ўніверсальнасць мастацтва, яго аб'яднальныя каштоўнасці. Мы можам разам шмат зрабіць для таго, каб Еўропа стала агульным і ўтульным домам.

На адкрыцці выстаўкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы Павел Латушка падкрэсліў:

— Ідэя арганізаваць выстаўку нарадзілася чатырнаццатага студзеня мінулага года ў Лісабоне. Я і мастак Віктар Альшэўскі пачалі абмеркаванне, што можна прапанаваць знакавага Беларусі ў Год культуры. Віктар Уладзіміравіч прапанаваў зрабіць выстаўку твораў мастакоў з Мінска і Парыжа, але, на мой погляд, калі брацца за праект, то ён павінен быць маштабным. Мы ўспомнілі тэзіс Шарля дэ Голя пра неабходнасць стварэння адзінай прасторы ад Лісабона да Урала без раздзяляльных ліній. Гэты тэзіс мы трансфармавалі: вырашылі зрабіць акцэнт на адсутнасці межаў для мастацтва. Праект мог адбыцца толькі па адным прынцыпе: аб'яднальнай краінай павінна была стаць наша радзіма. Але рэалізаваць задуму не атрымалася б без падтрымкі іншых міністэрстваў і маіх калег-дыпламатаў: у праекце ўзялі ўдзел дваццаць восем пасольстваў Беларусі. Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава ўпершыню прыняла патранат над выставачным праектам сучаснага мастацтва ў Беларусі. Выстаўка адпавядае мэтам ЮНЕСКА: культура — фактар, які садзейнічае агульнаму будаўніцтву свету і згодзе ў ім. Ніколі Беларусь не збірала ў адной прасторы столькі мастакоў з розных краін. Літаральна ноччу перад адкрыццём выстаўкі ў Мінск былі прывезены апошнія два творы з Манака і Андоры. Нават маленькія краіны Еўропы вырашылі паказаць сваё мастацтва ў Беларусі.

Арт-праект «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» выклікаў вялікую цікавасць у еўрапейскіх мастакоў. Паколькі выстаўка арганізаваная без узроставых, тэматычных крытэрыяў, сярод творцаў прадстаўлены як мэтры сучаснага мастацтва, так і маладыя, але паспяховыя ў сваіх краінах творцы. Многія мастакі вырашылі асабіста прысутнічаць на адкрыцці выстаўкі.

— Адзін з матываў майго прыезду ў Беларусь у тым, што я з Усходняга Берліна, — расказаў нямецкі мастак Ульрых Уфрэхт. — Наша частка горада перажывае тыя ж змены, што і ваша краіна. Таму ўдзел у праекце для мяне важны, нават гістарычны.

Экспазіцыя атрымалася рознабаковай. Прасочваецца гульня на кантрастах, адчуваецца самабытнасць еўрапейскіх народаў. У гэтым і сэнс праекта: з аднаго боку, ён паказвае, што ёсць агульнага ў іх, з іншага — дэманструе адметнасць, унікальнасць культуры кожнай з краін.

Падчас падрыхтоўкі выстаўкі арганізатары імкнуліся прыцягнуць увагу да Беларусі, падкрэсліць турыстычны патэнцыял нашай краіны, якая мае багатую гісторыю, адлюстраваную ў тым ліку і ў мастацтве. Месцам правядзення выстаўкі нездарма выбралі галерэю Міхаіла Савіцкага, што знаходзіцца ў Верхнім горадзе, які апяваецца многімі беларускімі майстрамі ў творах.



*Зураб Цэрэтэлі «Лісабон», 2016 г.*

Віктар Альшэўскі, беларускі мастак і куратар праекта, адзначае:

— На маю думку, Год культуры павінны быць кожны дзень, тыдзень, месяц... Не бывае так, каб культура жыла адзін год: яна ў грамадстве альбо ёсць, альбо няма. У нас, безумоўна, ёсць. І пра гэта ведаюць людзі ў розных краінах. Вы не ўяўляеце, якое жаданне было ў многіх замежных мастакоў паўдзельнічаць у праекце, адчуць Беларусь блізка.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*




**Якія асацыяцыі ў вас са Слуцкам? Канечне, слуцкія паясы. На думку прыходзіць славуты верш Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі», што распавядае пра прыгонных дзяўчын, якія замест персідскага ўзору ткалі «цвяток радзімы васілька». Аднак лірычная гісторыя — гэта мастацкая выдумка, паколькі ткаць паясы мелі права толькі мужчыны — умелыя майстры, праца якіх добра аплачвалася.**

**Пра гэта, а таксама пра гісторыю знакамітых паясоў можна даведацца, завітаўшы ў Музей гісторыі слуцкіх паясоў, які знаходзіцца на першым паверсе прадпрыемства «Слуцкія паясы». Каля яго будынка ўсталяваны помнік «Ткач». У руках ткач трымае вытканы ім пояс. Аўтар скульптуры — Сяргей Гумілеўскі.**

**Таццяна НЯДЗЕЛЬКА**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 22.12.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1601.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4827

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686